● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

28 ліпеня 1998 г. аўторак, № 148 (23499)



# ЗВЯЗДА

*АКТУАЛЬНА*

## Які лёс чакае недзяржаўныя ВНУ?

**З гэтым пытаннем усё часцей звяртаюцца ў рэдакцыю нашы чытачы. Бацькі выказваюць трывогу: ці атрымаюць іх дзеці, студэнты недзяржаўных ВНУ, дыпломы дзяржаўнага ўзору — або толькі даведку пра тое, што пройдзены 5-гадовы курс навучання? Студэнты занепакоеныя: ці не атрымаецца так, што пасля заканчэння двух-трох курсаў у недзяржаўнай ВНУ яны будуць «выкінуты на вуліцу»? І ўвогуле, чаму на парадак дня паўстае пытанне аб далейшым лёсе недзяржаўных навучальных устаноў.**

Атрымаць вычарпальныя адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні вы зможаце, калі возьмеце ўдзел у тэлевізійным «круглым стале» Беларускага тэлебачання «Стан і перспектывы развіцця недзяржаўнай вышэйшай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».

На пытанні журналістаў вядучых рэспубліканскіх выданняў і тэлегледачоў у прамым эфіры адкажуць начальнік Галоўнага ўпраўлення вышэйшай школы Міністэрства адукацыі прафесар Валерый Дабранскі, першы намеснік начальніка дзяржаўнай інспекцыі Мінадукацыі дацэнт Уладзімір Самусевіч, галоўны інспектар галоўнага ўпраўлення вышэйшай школы Юрый Сцепанчук, вядучы эксперт Мінадукацыі дацэнт Віктар Іўчанкаў.

«Круглы стол» у прамым эфіры адбудзецца сення ў 14.30 на канале Беларускага тэлебачання. Не прапусціце.

**Уладзя ТАЦЦЯНЧЫК.**




**Ідуць экзамены.**

Фота Віт. АМІНАВА.

## Беларусь павінна больш актыўна прымаць удзел у руху недалучэння

**Аляксандр Лукашэнка 27 ліпеня прыняў са справаздачай міністра замежных спраў Івана Антановіча.**

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства праінфармаваў Аляксандра Лукашэнку аб падрыхтоўцы ўдзелу дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на чале з прэзідэнтам у рабоце маючай адбыцца сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку і афіцыйнага візіту прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Рэспубліку Куба. Таксама былі ўзгоднены візіты ў нашу краіну прэзідэнта Турцыі Сулеймана Дэміраля і прэм'ер-міністра Пакістана Наваза Шарыфа.

Прэзідэнт указаў на неабходнасць больш актыўнага ўдзелу Беларусі ў Руху недалучэння, а таксама арыентаваў міністра на канкрэтызацыю знешнепалітычных і знешнеэканамічных сувязяў з партнёрамі ў СНД. У першую чаргу на адрацоўку сумеснай знешнепалітычнай стратэгіі з Расійскай Федэрацыяй. У ходзе сустрэчы таксама былі абмеркаваны пытанні кадравай палітыкі. Прэзідэнт паставіў пытанне аб старанным адборы кандыдатур у замежныя прадстаўніцтвы Беларусі з улікам іх дзелавых якасцяў і прафесійнай падрыхтоўкі.

**БЕЛТА.**



## У ПЕРШЫМ ПАЎГОДДЗІ ГЭТАГА ГОДА ГРАМАДЗЯНАМІ БЕЛАРУСІ ПРЫВАТЫЗАВАНА 46,5 ТЫСЯЧЫ КВАТЭР У ДАМАХ ДЗЯРЖАЎНАГА І ГРАМАДСКАГА ЖЫЛОГА ФОНДУ

Па інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у першым паўгоддзі гэтага года грамадзянамі рэспублікі прыватызавана 46,5 тысячы кватэр у дамах дзяржаўнага і грамадскага жылога фонду агульнай плошчай 2,4 мільёна квадратных метраў (у аналагічны перыяд мінулага года гэты паказчык складаў 36,8 тысячы). Усяго з 1989 па чэрвень 1998 года ва ўласнасць грамадзян перайшло 824,5 тысячы кватэр, ці 45 працэнтаў ад колькасці кватэр, якія падлягаюць прыватызацыі. З агульнай колькасці кватэр, прыватызаваных у першым паўгоддзі гэтага года, 81 працэнт склалі кватэры, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці.

Па інфармацыі Мінстата, у студзені—чэрвені ў Мінску прыватызавана 14,2 тысячы кватэр, у Гомельскай вобласці — 7,8 тысячы, Віцебскай — 6,2 тысячы, Мінскай — 25,6 тысячы, Брэсцкай — 5,1 тысячы, Магілёўскай — 4,6 тысячы і Гродзенскай — 3 тысячы.

Ацэначны кошт кватэр, прыватызаваных у першым паўгоддзі, склаў 104,5 мільярда рублёў. Бязвыплатна прыватызавана (без уліку жыллёвай квоты) 95 кватэр (дамоў), атрыманых у выніку зносу жылых дамоў, якія належалі грамадзянам на праве ўласнасці.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

## Зноў спякота, зноў ахвяры...

**Цёплае і сухое надвор'е, якое нарэшце ўсталявалася з другой паловы ліпеня, на жаль, прынесла не толькі прыемныя сюрпрызы: як паведамілі нам у Рэспубліканскім таварыстве выратавання на водах, толькі за мінулы тыдзень у краіне патанулі 32 чалавекі, у тым ліку чацвёра непаўналетніх.**

Відаць, ці не самае сумнае здарэнне адзначана ў Слаўгарадскім раёне на рацэ Сож, дзе падчас віражу перакулілася маторная лодка, у якой знаходзіліся трое рыбакоў. Усе трое ў выніку патанулі. Дваім з пацярпелых было па 32 гады, яшчэ аднаму — 33.

**Сяргей ГРЫБ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## У 5 ГАСПАДАРКАХ ВЯСКОЎЦЫ НЕ АТРЫМАЛІ ЯШЧЭ ЛЮТАЎСКАЙ ЗАРПЛАТЫ

**Падчас уборачнай вельмі важна арганізаваць менавіта матэрыяльнае стымуляванне працы вяскоўцаў.**

Не сакрэт, што заробкі калгаснікам нярэдка затрымліваюць. У апошніх зводках Мінстата на долю прадпрыемстваў Мінсельгасхарча прыпадае вялікая частка запазычанасці па народнай гаспадарцы.

Як стала вядома «Звяздзе», у 5 гаспадарках Беларусі яшчэ не плацілі лютаўскіх заробкаў. Агульная сума запазычанасці тут склала 677 мільёнаў рублёў. Самае цікавае, што далей па месяцах затрымкі нарастаюць быццам снежны камяк — ужо за сакавік у спісе даўжнікоў значацца 72 гаспадаркі з доўгам 10,8 мільярда рублёў. Варта працягваць? Думаю, не...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ТОЛЬКІ ФАКТ*

- У мінулым годзе за мяжой рэспублікі **легальна працавалі** 3226 нашых суайчыннікаў. Нелегальна за мяжой працуюць каля 50 тысяч грамадзян Беларусі.
- Валавы ўнутраны прадукт рэспублікі ў І паўгоддзі ў параўнанні з шасцю месяцамі мінулага года **павялічыўся на 12,5 працэнта.** За гэты ж тэрмін узрасла колькасць стратных прадпрыемстваў і арганізацый з 22,9 да 24 працэнтаў.
- Агульны аб'ём інвестыцый у вытворчую базу будаўнічай галіны сёлета **павінен скласці** 1,2 трыльёна рублёў, што на 20 працэнтаў болей, чым у мінулым годзе.

*УСМІХНЕМСЯ!*



—А Васька сюды на працу ўладкаваўся. Мышэй не ловіць, але ў яго — парода

Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*П'яны муж, прыйшоўшы дамоў, стукнуў кулаком па стале і крыкнуў:*

*— Хто тут гаспадар?*

*Жонка ў адказ запусціла патэльняй.*

*— Ну вось,— паціраючы пабітае месца пакрыўджана кажа муж, — ужо і спытаць нельга.*

❑

*Сустрэліся два прыяцелі.*

*— Учора я падстрэліў двух гусей,— кажа адзін.*

*— Гусі былі дзікія?*

*— Гусі — не, а вось іхні гаспадар!..*

## НАМІНАЛЬНЫ КОШТ ЧЭКАЎ «МАЁМАСЦЬ» ДАСЯГНУЎ 150 ТЫС. РУБЛЁЎ

**У свой час, калі была аб'яўлена чэкавая прыватызацыя, чэк каштаваў 2,5 тысячы рублёў. Тэрміныналічэння, выдачы і хаджэння чэкаў пастаянна прадаўжаліся, і за гэты час народны ваўчэр паспеў разам з інфляцыяй «падрасці» да 35 тысяч, а потым і да 100 тысяч рублёў. Але і гэтая цана чэка аказалася не гранічнай.**

Як паведамілі «Звяздзе» ў Міндзяржмаёмасці, у сувязі з пераацэнкай асноўных фондаў Савет Міністраў рэспублікі ўстанавіў кошт аднаго нявыкарыстанага імяннога прыватызацыйнага чэка «Маёмасць» у памеры 150 тысяч беларускіх рублёў. Аднак павелічэнне цаны чэка, на думку спецыялістаў у галіне прыватызацыі, прынцыпова не зменіць сітуацыю на чэкавым рынку. Па сутнасці, рэальны кошт яго не зменіцца. Бо ў канчатковым выніку ваўчэр абменьваецца на пэўную частку дзяржмаёмасці пры дапамозе набыцця акцый прыватызаваных прадпрыемстваў. Вырас кошт дзяржмаёмасці — адпаведна павялічваецца і цана чэка.

Сёння Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі па ўзгадненню з Мінфінансаў і Мінюстам рыхтуе растлумачэнні, якія датычацца асаблівасцяў выкарыстання чэкаў «Маёмасць» у сувязі з павелічэннем наміналынага кошту ваўчэра да 150 тысяч рублёў. Плануецца, што ўжо на гэтым тыдні гэтыя растлумачэнні будуць надрукаваны ў сродках масавай інфармацыі.

Нагадаем, што сёння Міндзяржмаёмасць праводзіць у Мінску свой чарговы чэкавы аўцыён для ўсіх суб'ектаў прыватызацыі. На аўкцыён выстаўляюцца 1.379.572 акцыі 53 акцыянерных таварыстваў. Агульны аб'ём акцый дазваляе абмяняць не меней як 8,9 млн. чэкаў «Маёмасць» — амаль столькі, колькі было абменена на ўсіх папяровых аўкцыёнах.

**Сяргей КУРКАЧ.**



## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 27 ЛІПЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (0-17)** | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 56500 | 57800 | 31600 | 32300 | 8700 | 9200 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 57500 | 58000 | 32000 | 32400 | 9100 | 9200 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 56500 | 58000 | 31800 | 32500 | 8900 | 9200 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 41150.00 | | 23105.00 | | 6560.00 | | Курс на 28.07.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.2290 | | 3.5008 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 70000 | 72000 | 39207 | 40338 | 11162 | 11485 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 66000 | 66500 | 36800 | 37300 | 10100 | 10600 | |

## РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

**Гэты рабочы тыдзень кіраўніка дзяржавы будзе прысвечаны вырашэнню праблем народнагаспадарчага комплексу, кантролю за дзейнасцю выканаўчых органаў улады, а таксама вырашэнню іншых пытанняў унутранага і міжнароднага характару.**

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе прэзідэнта, пачнецца рабочы тыдзень са справаздачы кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіла Мясніковіча, у ходзе якой будзе даложана аб рабоце дзяржаўных структур, праводзімай кадравай палітыцы, а таксама іншых бягучых пытаннях дзейнасці Адміністрацыі Прэзідэнта.

Самую пільную ўвагу кіраўнік дзяржавы ўдзеліць пытанням міжнароднага супрацоўніцтва. Па гэтых праблемах перад прэзідэнтам краіны зробіць справаздачу міністр замежных спраў Іван Антановіч. Міністр праінфармуе таксама кіраўніка дзяржавы па асноўных напрамках дзейнасці знешнепалітычнага ведамства, у тым ліку і аб супрацоўніцтве з расійскімі рэгіёнамі.

У рамках супрацоўніцтва з расійскімі рэгіёнамі пройдзе сустрэча прэзідэнта з кіраўніком адміністрацыі Стаўрапольскага края А. Л. Чарнагоравым. Адбудзецца зацікаўлены абмен думкамі па шырокаму колу пытанняў, якія маюць узаемную цікавасць. У цэнтры ўвагі будзе абмеркаванне стану і перспектыў гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва нашай дзяржавы з гэтым найбагацейшым рэгіёнам Расіі.

Прэзідэнт таксама прааналізуе стан спраў у лясной гаспадарцы рэспублікі. З мэтай рэфарміравання лясного комплексу на гэтым тыдні запланавана нарада пад кіраўніцтвам А. Р. Лукашэнкі.

У рабочым графіку кіраўніка дзяржавы намечаны справаздачы вышэйшых службовых асоб краіны і вырашэнне іншых пытанняў жыццезабеспячэння рэспублікі.

**БЕЛТА.**

## ПАЧАТАК ЖНІВА СЁЛЕТА ВЫДАЎСЯ СКЛАДАНЫМ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў аддзеле земляробства і раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, паводле апошніх даных, убраны збожжавыя з плошчы 64 тысячы гектараў (2,5 працэнта агульнай колькасці). З лепшымі паказчыкамі ідуць Брэстчына — 33 тысячы гектараў (8,7 працэнта) і Гродзеншчына — 17,9 (4,4). У самым пачатку ўборачная на Віцебшчыне — 1,1 (0,3), Міншчыне — 1,1 (0,2) і Магілёўшчыне — 0,8 (0,2).**

Сярэдняя ўраджайнасць складае зараз 27,6 цэнтнера з гектара. Наперадзе па гэтаму паказчыку — Гродзеншчына з 33,7 цэнтнера з гектара і Віцебшчына — 27,1. Аднак, як лічаць спецыялісты, сёння яшчэ цяжка спрагназіраваць, якой будзе ўраджайнасць нават праз тыдзень, не кажучы ўжо пра большыя тэрміны.

Асноўная цяжкасць зараз — вільготнасць глебы. Дажджы працягваюцца. Больш таго, хутка над Беларуссю чакаецца новы атмасферны фронт з ападкамі. Збожжа сёлета прыйдзецца сушыць як ніколі, таму, заўважаюць аграрыі, ужо зараз трэба паклапаціцца аб належных запасах паліва.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### *Фестывальная хроніка*

### Паланез — не гімн. Але вітаюць яго стоячы

Самым цудоўным нумарам канцэрта беларускіх майстроў быў, безумоўна, паланез Агінскага «Развітанне з радзімай». Нарэшце мы ўбачылі, што паланез — не толькі музыка, але і танец. Прыгожа і вытанчана артысты Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі данеслі боль па страчанай радзіме. Між іншым, гэты нумар канцэрта сарваў найбольшыя апладысменты, нягледзячы на тое, што ў праграме ўдзельнічалі ўдарныя сілы беларускай эстрады. Адзін расчулены юнак нават пляскаў у далоні стоячы, за што палякі, якія прысутнічалі на канцэрце, прынялі яго за свайго.

Але беларусы на «Славянскім базары ў Віцебску» былі першымі, каму ўдалося парушыць аднастайнасць і ўнесці жыццё ў праграму. Што і не дзіва, бо да беларускага дня падрыхтоўка ішла сур'ёзная і доўгая.

### Добрае імя гучыць дзе заўгодна

Некалькі фестывальных дзён прайшлі ў пошуках каранёў, якія аб'ядноўваюць славянскія краіны. Можна было зрабіць аналіз песень, якія выконвалі артысты, наведваючы белыя музычныя мерапрыемствы. Але на вуліцах Віцебска размясціўся «Горад майстроў». Майстры Расіі і Украіны прывезлі цудоўныя мастацкія вырабы, і заставалася толькі шкадаваць, што цэны на сувеніры называліся ці ў доларах, ці ў расійскіх рублях, а фестывальныя «васількі» ў такіх крамах, на жаль, не каціраваліся. Затое менавіта ў «Горадзе майстроў» знайшлося імя, якое аб'яднала беларускае і расійскае мастацтва. Мастачка з Расіі Раіса Баравікова стаяла за прылаўкам палаткі і гандлявала драўлянымі «птушкамі шчасця». Да яе стаяла чарга. Ну сапраўды, як можна не купіць такую цудоўную птушачку, ды яшчэ ў чалавека з вельмі беларускім імем? Застаецца цяпер вядомай пазтцы Раісе Баравіковай пазнаёміць расіян са сваёй творчасцю. Можа, на наступны год на «Славянскім базары» адновяць літаратурную гасцёўню, якая сёлета знікла з праграмы...

### Шматфункцыянальная свістулька

Міхаіл Марфін, які правёў некалькі «зорных гадзін» на фестывалі, зрабіў у Віцебску добры набытак. Перад тым, як пакінуць горад і накіравацца на фестываль КВЗ у Юрмалу, Марфін абышоў вулічную выставу-продаж беларускіх умельцаў у пошуках незвычайнай свістулькі. Знайшоў. Сапраўды, свістулька выдавала сапраўдную салаўіную трэль, хоць была зроблена ў форме кубачка. Знакаміты вядучы адчуваў асалоду, калі ў яго атрымліваліся «птушыныя» гукі. А потым, паставіўшы кубачак перад сабой, ён дадаў, што свістульку можна выкарыстоўваць і ў прагматычных мэтах.

### Княгіня Вольга — на кані

У Віцебску адзначалі дзень горада. І неадназова на розных мерапрыемствах узгадвалі княгіню Вольгу, якая загадала залажыць горад на рацэ Віцьбе. Кажуць, гэта было 1024 гады таму. Але адна справа — узгадаць гісторыю, зусім іншая — не паказаць. Як гэта было? Напэўна, такое пытанне задалі сабе арганізатары «Канцэрта сяброў» у КДЦ. З маналогам у гонар Віцебска на сцэне з'явілася сама княгіня на сапраўдным жывым кані. Праўда, коней было ажно тры, і застаецца дзівіцца, як яны ўмясціліся на не вельмі вялікай сцэне. Коні са сваёй роляй справіліся. Выслухалі маналог Вольгі — і паехалі далей.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

### *Крымінал*

## ПЛАНЫ РАСПРАЦОЎВАЛІ Ў КАФЭ

**Аператыўная група супрацоўнікаў сталічнай міліцыі днямі наведалася на летнюю веранду аднаго з мінскіх кафэ ў цэнтры горада.**

Але прыйшлі яны сюды не для таго, каб выпіць «Хершы». Тут за адным са столікаў сядзелі шасцёра маладых людзей, якія, па папярэдніх звестках, з'яўляліся членамі арганізаванай злачыннай групы. Іх затрыманне адбылося без лішніх ускладненняў. Устаноўлены асобы затрыманых: жыхар г. Жодзіна, непрацуючы, раней судзімы «злодзей у законе». У яго кампаніі знаходзіліся госці з Расіі — з Наўгародскай і Іванаўскай абласцей, а таксама двое непрацуючых мінчан і супрацоўнік службы бяспекі адной з беларускіх палітычных партый. «Злодзей у законе» быў узброены да зубоў. У яго знойдзена граната Ф-1 і рэвальвер сістэмы «наган» з патронамі. У аўтамашыне, якая належала аднаму з мінчан, знойдзена таксама «лімонка».

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**



ТАК ГЭТА БЫЛО. Фота IREX/ProMedia.

## У МІНСКУ АБЯСШКОДЖАНА ЗЛАЧЫННАЯ ГРУПА КІТАЙЦАЎ

**Аператыўнымі супрацоўнікамі сталічнай міліцыі ў ноч з пятніцы на суботу затрыманы грамадзянін Кітайскай Народнай Рэспублікі, які пражываў па вуліцы Прытыцкага, і трое яго суайчыннікаў, што знаходзіліся ў нашай сталіцы без рэгістрацыі.**

Следства мае інфармацыю аб тым, што 17 ліпеня, знаходзячыся ў Маскве, яны выкралі трох сваіх суграмадзян, прыбыўшых у Расію на экскурсію, даставілі іх у Мінск на памянёную ўжо кватэру па вуліцы Прытыцкага і выкарыстоўваючы міжнародную тэлефонную сувязь, не ў меру прадпрымальныя кітайцы патрабавалі ад родных сваіх палоннікаў выкуп — 40 тысяч долараў.

На наступны дзень, 18 ліпеня, «падманным шляхам», як гаворыцца ў матэрыялах следства, завабілі ў Мінск з Гомеля яшчэ семярых сваіх суайчыннікаў і таксама патрабавалі ў родных па 10 тысяч долараў за вызваленне кожнага з іх. З гэтай шайкай махляроў, будзем спадзявацца, пакончана. Але звяртае на сябе ўвагу той факт, што аналагічныя злачынствы з удзелам іншаземцаў адбываюцца ў Мінску, ды і ў іншых гарадах краіны, ужо не ўпершыню.

Ці не час прыняць больш рашучыя меры да тых, хто так нахабна карыстаецца беларускай гасціннасцю?

**Антон ЗАПОЛЬСКІ.**

## АТРЫМАЙ ЛІЦЭНЗІЮ І ГАНДЛЮЙ СПАКОЙНА. ІНАЧАЙ...

**Днямі супрацоўнікамі Фрунзенскага РАУС горада Мінска ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах да двух жыхароў сталіцы, якія займаліся прадпрымальніцкай дзейнасцю без адпаведнага дазволу.**

Для чаго гэта рабілася, думаю, зразумела — каб не плаціць падаткі. Мінчане паспелі рэалізаваць незаконным шляхам парфюмерных вырабаў на 17 тысяч 500 амерыканскіх долараў. Дадаткова ў іх канфіскавана тавараў яшчэ на 70 тысяч долараў.

**Міхась БЕРАСТ.**

Пракуратура Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне намесніку Генеральнага пракурора рэспублікі Снегіру М. В. у сувязі з напаткаўшым яго горам — раптоўнай смерцю **МАЦІ**.

### *Тэніс. Кубак федэрацый*

## ВОЛЬГА БАРАБАНШЧЫКАВА ПРАЛАЖЫЛА НАМ ШЛЯХ У ДРУГУЮ СУСВЕТНУЮ ГРУПУ

**Падчас мінулых выхадных у сталічным Палацы тэнісу прайшоў плэй-оф матч за выхад у другую сусветную групу паміж жаночымі камандамі Беларусі і Венесуэлы. Нашы выйгралі з агульным лікам 4:1 і ў наступным годзе будуць гуляць з саперніцамі рангам вышэй цяперашніх рэгіянальных кваліфікацыйных груп.**

На пачатку гэтай міжнародный сустрэчы жараб'ёўка вызначыла, што дзвюма асноўнымі ўдзельніцамі з нашага боку будуць Наталля Зверава і Вольга Барабаншчыкава.

Іх саперніцамі выступалі першая ракетка Венесуэлы Марыя Александра Вента і яе менш вядомая сяброўка Мілаграс Секейра.

У першы дзень турніру абедзве нашы тэнісісткі ўпэўнена выйгралі: Вольга Барабаншчыкава ў Марыі Вента — 6:2, 6:2, а Наташа Зверава — у Мілагрэс Секейра — 6:1, 6:2.

Назаўтра, у нядзелю, саперніцы памяняліся месцамі, і беларускім балельшчыкам прыйшлося пахваляваціца. Зверава, якая ў адзіночным разрадзе бягучага рэйтынга Corel WTA Tour (на 6 ліпеня 1998) займала 16-е месца, нечакана прайграе Вента — 3:6, 6:3, 4:6, якая ў сусветным рэйтынгу на 33-й пазіцыі. Усё напружанне зняла Барабаншчыкава, упэўнена перайграўшы Секейра — 6:3, 6:3.



Фота IREX/ProMedia.

Парны паядынак прынцыповага значэння не меў і ўсё ж беларускі выйшлі пераможцы. Праўда, замест Наталлі Зверавай у гульнявым пратаколе з'явілася прозвішча 17-гадовай мінчанкі Надзеі Астроўскай. У кампаніі з Барабаншчыкавай яны адолелі дуэт Вента—Секейра — 7:5, 6:3.

Пасля завяршэння сустрэчы Беларусь—Венесуэла Вольга Барабаншчыкава заявіла, што яна вельмі задаволена сваёй гульнёй. Псіхалагічны крызіс, які праследаваў яе на некаторых міжнародных турнірах, ужо мінаваў, і яна гатова да пакарэння новых вяршынь.

Надзея Астроўская вялікіх планаў яшчэ не будавала, аднак выказала жаданне «прасачыцца» сёлета ў сусветным рэйтынгу з 327 месца ў лік 200 мацнейшых.

Капітан каманды Беларусі Марат Звераў, каменціруючы вынікі сустрэчы, некалькі кампліментаў выказаў у адрас венесуэлкі Марыі Вента. Не зусім удалую гульню сваёй дачкі Наташы ён растлумачыў тым, што яна не адаптавалася пасля травяных кортаў тага ж Уімблдона да штучнага мінскага пакрыцця.

Капітан каманды Венесуэлы Ванеса Хоплер адзначыла, што чакала ліку 3:2 ці 2:3. Аднак беларускі пераўзышлі ўсе чаканні.

На развітанне з Беларуссю госці з Паўднёвай Амерыкі наведалі сталічны музей Вялікай Айчыннай вайны, а таксама «Мак Доналдс» і піцэрыю.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ГАНДЛЁВЫ ДОМ — ДЛЯ ЖЛОБІНА

**Днямі і без таго ажыўлены бульвар Металургаў у Жлобіне быў літаральна запруджаны і машынамі, і пешаходамі. А каля новага будынка гандлёвага дома, адкрыцця якога з нецярпеннем чакаў увесь горад, з раніцы было стоўпатварэнне.**

Гэты гандлёвы дом, як і большасць іншых аб'ектаў жыллёвага і культурна-бытавога прызначэння, будаваў БМЗ. Паклапаціўся калектыў і пра тое, каб і асартымент тавараў тут быў адпаведны. Вочы і сапраўды разбягаліся ад мноства тавараў: найноўшай мэблі, гаспадарчых вырабаў, адзення і абутку... А яшчэ захапляла вонкавая і ўнутраная аддзелка самога будынка і памяшканняў. Менавіта еўрапейскі стыль прадэманстравалі тут у каторы ўжо раз супрацоўнікі гомельскай вытворча-камерцыйнай фірмы «Венера» на чале з Александрам Асмалоўскім.

А роўна ў дзесяць гадзін раніцы адбылося ўрачыстае адкрыццё гандлёвага цэнтра. Па традыцыі кіраўнік гарадской адміністрацыі Уладзімір Ерафееў і дырэктар па кадрах, быту і рэжыму БМЗ Уладзімір Фларызяк перарэзаюць чырвоную стужку. А потым адчыніліся дзверы — і дзесяткі пакупнікоў запоўнілі прасторныя памяшканні магазіна.

Ужо праз якую-небудзь гадзіну нехта з гандлёвых работнікаў, што аж узмакрэў ад беспярапыннай работы з пакупнікамі, кінуў на хаду: маўляў, за дзень выканаем месячны план тавараабароту. І дзякуй Богу, значыць у людзей ёсць грошы!

**Уладзімір ГОЙТАН.**

### *Футбол. Чэмпіянат Беларусі*

## ЛІДЭР ЗАМАЦОЎВАЕ ПАЗІЦЫІ

**Пасля больш чым двухтыднёвага антракту ўзнавіўся VIII чэмпіянат Беларусі па футболу.**

Прайшоў 16-ты тур, які ніякіх кардынальных змяненняў у турнірную табліцу не ўнёс, хіба толькі ўмацаваў пазіцыі магілёўскага «Днепр-Трансмаша», які на гэты раз абыграў у гасцях 2:0 брэсцкае «Дынама».

Вынікі астатніх сустрэч:

Белшына — Славія — 4:4
Нёман — Гомель — 1:1
Нафтан-Дэвон — Тарпеда — 1:5
Камунальнік — Тарпеда-Кадзіна — 0:2
Маладзечна — БАТЭ — 0:3
Лакаматыў-96 — Шахцёр — 1:2

Матч двух сталічных каманд «Дынама» (Мн) — «Дынама-93» не адбыўся з-за забастоўкі апошніх.

Наступны, 17-ты тур пройдзе 1-2 жніўня.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## СОНЦА — СЁННЯ — МЕСЯЦ

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.15 | 21.16 | 16.01 |
| Віцебск – | 4.59 | 21.12 | 16.13 |
| Магілёў – | 5.04 | 21.05 | 16.01 |
| Гомель – | 5.10 | 20.54 | 15.44 |
| Гродна – | 5.33 | 21.28 | 15.55 |
| Брэст – | 5.39 | 21.23 | 15.44 |

***МАЛАДЗІК 23 ліпеня.***
**З 9.57 — 6-я месяцавыя суткі.**
**З 10.15 Месяц — у сузор'і Шаляў.**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Юліты, Уладзіміра**
**К. Віктара**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, у заходняй палавіне кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні, 5—10 м/сек., пры навальніцах парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ў Магілёве і Віцебску — 25—27, Мінску і Гомелі — 26—28, Гродне — 27—29, Брэсце — 28—30 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі: 29-га ўначы — на большай частцы тэрыторыі, удзень — па ўсходніх рэгіёнах навальнічныя дажджы, месцамі дажджы моцныя; 30-га ўначы — на паўднёвым усходзе, удзень — па паўночнаму захаду пройдуць кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёвы, паўднёва-заходні, 5—10 м/сек., пры навальніцах парывы да 15—20 м/сек. Тэмпература 29-га ўначы — 14—19, удзень — 20—25; 30-га ўначы — 9—14, удзень — 22—27 градусаў вышэй нуля.

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ РЭГУЛЯВАННІ ВЫТВОРЧАСЦІ І АБАРОТУ АЛКАГОЛЬНАЙ ПРАДУКЦЫІ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 24 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 30 чэрвеня 1998 года*

**ГЛАВА 1. Агульныя палажэнні**

**Артыкул 1. Асноўныя тэрміны і паняцці, якія прымяняюцца ў Законе**

Пад алкагольнай прадукцыяй разумеюцца каньячны, пладовы і этылавы спірт, які атрымліваецца з харчовай сыравіны, а таксама алкагольныя напіткі (гарэлка, лікёра-гарэлачныя вырабы, віно, каньяк, шампанскае) і іншыя напіткі з аб'ёмнай доляй этылавага спірту (далей -- мацунак) больш 0,5 працэнта.

Пад дзяржаўным рэгуляваннем вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі разумеецца ўстанаўліваемая гэтым Законам і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь сістэма мер, якая забяспечвае кантроль дзяржаўных органаў за вытворчасцю і абаротам алкагольнай прадукцыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Пад абаротам алкагольнай прадукцыі разумеецца яе экспарт, імпарт, захоўванне, аптовы і розьнічны гандаль.

Пад захоўваннем алкагольнай прадукцыі разумеецца дзейнасць, пры якой адзін бок (захавальнік) па дагавору складскога захоўвання абавязваецца захоўваць алкагольную прадукцыю, перададзеную яму другім бокам (тавараўладальнікам), і вярнуць гэту алкагольную прадукцыю ў захаванасці.

Пад аптовым гандлем алкагольнай прадукцыяй разумеецца дзейнасць, пры якой купля-продаж (мена) гэтай прадукцыі ажыццяўляецца з мэтай яе далейшага перапродажу або прамысловай перапрацоўкі і экспарту.

Пад рознічным гандлем алкагольнай прадукцыяй разумеецца дзейнасць па продажу гэтай прадукцыі непасрэдна грамадзянам і іншым спажыўцам незалежна ад формы разлікаў.

**Артыкул 2. Сфера прымянення гэтага Закона**

Гэты Закон рэгулюе адносіны, звязаныя з вытворчасцю і абаротам алкагольнай прадукцыі.

Дзеянне гэтага Закона не распаўсюджваецца на вытворчасць і абарот піва, квасу і іншых напіткаў мацункам да 7 працэнтаў, тэхнічнага этылавага спірту і іншых відаў спірту, якія не допускаюцца да вытворчасці алкагольнай прадукцыі, а таксама на выробленыя ў хатніх умовах фізічнымі асобамі віны, настойкі і лікёры, прызначаныя для асабістага спажывання.

**Артыкул 3. Меры дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі**

Да мер дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі адносяцца:

ліцэнзаванне дзейнасці па вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі;

абмежаванне аб'ёмаў вытворчасці алкагольнай прадукцыі;

дзяржаўная гігіенічная рэгістрацыя і абавязковая сертыфікацыя алкагольнай прадукцыі;

устанаўленне квот на экспарт і імпарт алкагольнай прадукцыі;

устанаўленне акцызаў на алкагольную прадукцыю;

рэгуляванне цэн на алкагольную прадукцыю;

устанаўленне патрабаванняў да якасці і бяспекі алкагольнай прадукцыі;

устанаўленне парадку дэкларавання аб'ёмаў выробленай, экспартуемай, імпартуемай, нявыкарыстанай алкагольнай прадукцыі;

устанаўленне дзяржаўнага кантролю за вытворчасцю і абаротам алкагольнай прадукцыі.

Актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь могуць быць устаноўлены і іншыя меры дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі.

**Артыкул 4. Заканадаўства, якое рэгламентуе адносіны ў сферы дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі**

Заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якое рэгламентуе адносіны ў сферы дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі, складаецца з гэтага Закона і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Калі міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**ГЛАВА 2. Дзяржаўнае рэгуляванне вытворчасці алкагольнай прадукцыі**

**Артыкул 5. Ліцэнзаванне дзейнасці па вытворчасці алкагольнай прадукцыі, спажывецкай тары, закаркоўвачных матэрыялаў, этыкетак, контрэтыкетак, калярэтак, якія выкарыстоўваюцца пры разліве алкагольнай прадукцыі**

Дзейнасць па вытворчасці алкагольнай прадукцыі, спажывецкай тары, закарковачных матэрыялаў, этыкетак, контрэтыкетак, калярэтак, якія выкарыстоўваюцца пры разліве алкагольнай прадукцыі, ажыццяўляецца на аснове спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), які выдаецца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6. Абмежаванне аб'ёмаў вытворчасці алкагольнай прадукцыі**

Абмежаванне аб'ёмаў вытворчасці алкагольнай прадукцыі можа ўводзіцца ў парадку і на ўмовах, якія вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Дзяржаўнае рэгуляванне тэхналогіі вытворчасці і якасці алкагольнай прадукцыі**

У Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца дзяржаўны кантроль за тэхналогіяй вытворчасці і якасцю вырабляемай алкагольнай прадукцыі ў парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У Рэспубліцы Беларусь забараняецца прымяненне тэхналогій вытворчасці алкагольнай прадукцыі, у тым ліку і тэхналогій замежных дзяржаў, якія могуць прывесці да выпуску алкагольнай прадукцыі, што не адпавядае патрабаванням якасці і бяспекі, устаноўленым актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь і нарматыўнай дакументацыяй па стандартызацыі.

Алкагольныя напіткі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь могуць вырабляцца толькі з каньячнага, пладовага і этылавага спірту, які атрымліваецца з харчовай сыравіны, паўфабрыкатаў, інгрэдыентаў і харчовых дабавак, дазволеных да прымянення органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду Рэспублікі Беларусь.

Вырабляемыя алкагольныя напіткі групуюцца ў залежнасці ад іх мацунку і тэхналогіі вытворчасці ў адпаведнасці з актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8. Дзяржаўная гігіенічная рэгістрацыя і сертыфікацыя алкагольнай прадукцыі**

Алкагольная прадукцыя, якая вырабляецца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, падлягае дзяржаўнай гігіенічнай рэгістрацыі і сертыфікацыі ў Нацыянальнай сістэме сертыфікацыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9. Маркіроўка алкагольных напіткаў**

Вырабляемыя алкагольныя напіткі павінны маркіравацца спецыяльным знакам, які пацвярджае легальнасць іх вытворчасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, у парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Маркіроўцы спецыяльным знакам не падлягаюць алкагольныя напіткі, разлітыя ў тару, якая вызначаецца пералікам, зацверджаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

На спажывецкай тары алкагольнага напітку павінны быць указаны:

назва алкагольнага напітку;

назва вытворцы і яго месцазнаходжанне;

таварны знак (пры яго наяўнасці);

мацунак алкагольнага напітку;

колькасць цукру ў алкагольным напітку (пры яго наяўнасці);

умяшчальнасць тары алкагольнага напітку;

абазначэнне нарматыўнай дакументацыі па стандартызацыі;

іншыя рэквізіты маркіроўкі ў адпаведнасці з актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Выраб алкагольных напіткаў у хатніх умовах**

У Рэспубліцы Беларусь дазваляецца выраб у хатніх умовах віна, настоек і лікёраў для асабістага спажывання.

**ГЛАВА 3. Дзяржаўнае рэгуляванне захоўвання алкагольнай прадукцыі**

**Артыкул 11. Ліцэнзаванне захоўвання алкагольнай прадукцыі**

Захоўванне алкагольнай прадукцыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца на аснове спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), што выдаецца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Парадак і ўмовы захоўвання алкагольнай прадукцыі**

Парадак і ўмовы захоўвання алкагольнай прадукцыі вызначаюцца актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАВА 4. Дзяржаўнае рэгуляванне гандлю алкагольнай прадукцыяй**

**Артыкул 13. Ліцэнзаванне гандлю алкагольнай прадукцыяй**

Аптовы гандаль алкагольнай прадукцыяй на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца на аснове спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) на аптовы гандаль, які выдаецца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных часткамі другой і трэцяй гэтага артыкула.

Асобы, якія маюць ліцэнзію на вытворчасць алкагольнай прадукцыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, маюць права на аптовы гандаль алкагольнай прадукцыяй на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Асобы, якія маюць ліцэнзію на імпарт алкагольнай прадукцыі, маюць права на аптовы гандаль алкагольнай прадукцыяй на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Рознічны гандаль алкагольнымі напіткамі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца на аснове спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), які выдаецца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

У ліцэнзіі на рознічны гандаль алкагольнымі напіткамі павінны быць указаны групы алкагольных напіткаў, якія дапускаюцца да рэалізацыі, а таксама час і месца гандлю імі.

Рознічны гандаль этылавым спіртам з харчовай сыравіны ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь толькі аптэкамі.

**Артыкул 14. Забарона на аптовы гандаль алкагольнай прадукцыяй**

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забараняецца:

аптовы гандаль алкагольнай прадукцыяй, якая не адпавядае патрабаванням гэтага Закона і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь;

аптовы продаж (мена) алкагольных напіткаў асобам, якія не маюць ліцэнзіі на аптовы або рознічны гандаль;

аптовы продаж этылавага спірту, што атрымліваецца з харчовай сыравіны за выключэннем продажу ў аптэчную сетку і ўстановам аховы здароўя, якія выкарыстоўваюць дадзены спірт на медыцынскія мэты, а таксама асобам, якія маюць ліцэнзію на вытворчасць алкагольнай прадукцыі;

аптовая купля алкагольнай прадукцыі ў асоб, якія не маюць ліцэнзіі на вытворчасць алкагольнай прадукцыі, ці ліцэнзіі на аптовы гандаль алкагольнай прадукцыяй, ці ліцэнзіі на імпарт алкагольнай прадукцыі.

**Артыкул 15. Дзяржаўнае рэгуляванне цэн на алкагольную прадукцыю**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь рэгламентуе парадак вызначэння верхняй і ніжняй меж цаны на алкагольную прадукцыю, якая рэалізуецца ў рознічным гандлі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 16. Забарона на рознічны гандаль алкагольнымі напіткамі**

Рознічны гандаль алкагольнымі напіткамі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забараняецца:

у кіёсках, павільёнах, ларках і іншых стацыянарных дробнарознічных гандлёвых пунктах, што не маюць гандлёвых залаў ці плошча гандлёвай залы якіх складае менш 10 квадратных метраў;

з рук, аўтамашын, аўтапрычэпаў і іншых развазных, разносных дробнарознічных гандлёвых сродкаў, акрамя аўтакрам;

у навучальных установах, лячэбных, дзіцячых культурна-відовішчных і выхаваўчых установах, інтэрнатах, на вытворчых прадпрыемствах і будоўлях;

у спартыўных збудаваннях і на іх тэрыторыях;

у дыетычных сталовых і дзіцячых кафэ, месцах гандлю, прызначаных для дзяцей і падлеткаў;

у будынках, у якіх размешчаны дзяржаўныя органы, за выключэннем стацыянарных аб'ектаў грамадскага харчавання;

на прадпрыемствах гандлю і грамадскага харчавання, абсталяваных на бензакалонках;

каля рэлігійна-культавых збудаванняў на адлегласці, якая вызначаецца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі сумесна з рэлігійнымі арганізацыямі.

**Артыкул 17. Забарона на гандаль алкагольнымі напіткамі ў разліў**

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забараняецца гандаль алкагольнымі напіткамі ў разліў, за выключэннем гандлю дадзенымі напіткамі ў наступных месцах:

стацыянарных аб'ектах грамадскага харчавання, акрамя аб'ектаў, у якіх артыкулам 16 гэтага Закона ўстаноўлена забарона на рознічны гандаль алкагольнымі капіткамі;

аб'ектах грамадскага харчавання вытворчых прадпрыемстваў і будоўляў, размешчаных па-за іх тэрыторыяй, іншых аб'ектах грамадскага харчавання пры правядзенні вясельных, юбілейных урачыстасцяў і рытуальных абрадаў;

паяздах, на рачных і марскіх суднах Рэспублікі Беларусь, дзе ёсць асобна абсталяваныя месцы грамадскага харчавання, паветраных суднах, якія выконваюць рэйсы ў замежныя дзяржавы;

спецыяльна абсталяваных вінных магазінах (чарачных або ізаляваных аддзелах);

летніх кафэ, міні-кафэ, павільёнах з плошчай гандлёвай залы не менш 10 квадратных метраў.

**Артыкул 18. Забарона на продаж алкагольнай прадукцыі асобным катэгорыям фізічных асоб**

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забараняецца продаж алкагольных напіткаў і спірту фізічным асобам, маладзейшым за 18 гадоў.

Работнікі, якія ажыццяўляюць продаж алкагольнай прадукцыі, маюць права ў выпадку неабходнасці патрабаваць ад фізічных асоб, якія купляюць алкагольную прадукцыю, прад'яўлення дакумента, што засведчвае ўзрост асобы.

**Артыкул 19. Права на гандаль алкагольнай прадукцыяй**

Права на гандаль алкагольнай прадукцыяй маюць асобы, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту.

**Артыкул 20. Парадак рознічнага гандлю алкагольнымі напіткамі**

Парадак рознічнага гандлю алкагольнымі напіткамі вызначаецца гэтым Законам, іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 21. Забарона на бязвыплатную рэалізацыю алкагольных напіткаў**

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забараняюцца:

перадача алкагольных напіткаў у якасці заработнай платы, прэміі;

бязвыплатнае распаўсюджванне алкагольных напіткаў;

прадастаўленне алкагольных напіткаў для латарэй, конкурсаў, гульняў у якасці прызоў, за выключэннем шампанскага (пеністага віна);

арганізацыя гульнёвых мерапрыемстваў з мэтай рэалізацыі алкагольных напіткаў.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь мае права ўстанаўліваць іншыя абмежаванні на бязвыплатную рэалізацыю алкагольных напіткаў.

**ГЛАВА 5. Дзяржаўнае рэгуляванне імпарту і экспарту алкагольнай прадукцыі**

**Артыкул 22. Ліцэнзаванне імпарту алкагольнай прадукцыі**

Імпарт алкагольнай прадукцыі на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь ажыццяўляецца на аснове спецыяльных дазволаў (ліцэнзій), якія выдаюцца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

У мэтах абароны айчынных вытворцаў алкагольнай прадукцыі колькасць ліцэнзій на імпарт алкагольнай прадукцыі можа быць абмежавана ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь. У гэтым выпадку праводзіцца адкрыты конкурс паміж асобамі, якія жадаюць атрымаць ліцэнзію на імпарт алкагольнай прадукцыі з указаннем груп алкагольнай прадукцыі і іх аб'ёмаў (квот). Умовы конкурсу зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 23. Дзяржаўная гігіенічная рэгістрацыя і сертыфікацыя імпартуемай алкагольнай прадукцыі**

Імпартуемая алкагольная прадукцыя падлягае дзяржаўнай гігіенічнай рэгістрацыі і абавязковай сертыфікацыі ў Нацыянальнай сістэме сертыфікацыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 24. Маркіроўка імпартуемых алкагольных напіткаў**

Імпартуемая алкагольная прадукцыя маркіруецца акцызнымі маркамі Рэспублікі Беларусь за межамі мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Парадак маркіроўкі акцызнымі маркамі імпартуемай алкагольнай прадукцыі вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Маркіроўцы акцызнымі маркамі не падлягаюць наступныя імпартуемыя алкагольныя напіткі:

увезеныя арганізатарамі і ўдзельнікамі міжнародных выставак і кірмашоў у якасці ўзораў і экспанатаў;

прызначаныя для афіцыйнага выкарыстання замежнымі дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі і консульскімі ўстановамі, а таксама прыроўненымі да іх органамі і місіямі міжнародных арганізацый;

прызначаныя для ўласнага спажывання дыпламатычнымі агентамі, службовымі асобамі консульскіх устаноў і прыроўненымі да іх супрацоўнікамі органаў і місій міжнародных арганізацый, а таксама членамі іх сем'яў;

накіраваныя ў свабодныя мытныя зоны і для рэалізацыі ў магазінах бяспошліннага гандлю, на паветраных, марскіх і рачных суднах, якія выконваюць рэйсы ў замежныя дзяржавы;

якія перавозяцца праз тэрыторыю Рэспублікі Беларусь транзітам пры прадастаўленні адпаведных фінансавых гарантый у парадку, што вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

якія ўвозяцца фізічнымі асобамі ў межах норм, устаноўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Маркіроўцы акцызнымі маркамі не падлягаюць алкагольныя напіткі, разлітыя ў тару пэўнай умяшчальнасці і ў тару сувенірнага выканання, што вызначаюцца пералікам, зацверджаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

На спажывецкай тары імпартуемага алкагольнага напітку павінны быць указаны:

назва алкагольнага напітку;

назва вытворцы і яго месцазнаходжанне;

таварны знак (пры яго наяўнасці);

мацунак алкагольнага напітку;

колькасць цукру ў алкагольным напітку (пры яго наяўнасці);

умяшчальнасць тары алкагольнага напітку.

Маркіроўка алкагольнага напітку імпартнай вытворчасці павінна быць перакладзена на беларускую або рускую мову. На маркіроўцы дапускаецца ўказанне іншых звестак аб алкагольным напітку, якія не супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 25. Дзяржаўнае рэгуляванне экспарту алкагольнай прадукцыі**

Экспарт алкагольнай прадукцыі ажыццяўляецца на аснове спецыяльных дазволаў (ліцэнзій), якія выдаюцца ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Аб'ём (квота) экспарту алкагольных напіткаў устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАВА 6. Дзяржаўны кантроль за выкананнем гэтага Закона і адказнасць за яго парушэнне**

**Артыкул 26. Дзяржаўны кантроль за выкананнем гэтага Закона**

Дзяржаўны кантроль за вытворчасцю і абаротам алкагольнай прадукцыі ажыццяўляюць спецыяльна ўпаўнаважаныя дзяржаўныя органы ў межах кампетэнцыі, якая вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 27. Рэгістрацыя асоб, якія ажыццяўляюць вытворчасць і абарот алкагольнай прадукцыі**

Асобы, якім выдадзены спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) на вытворчасць, імпарт, экспарт, аптовы і рознічны гандаль, захоўванне алкагольнай прадукцыі, падлягаюць абавязковай рэгістрацыі ў спецыяльным дзяржаўным рэестры ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 28. Дэкляраванне аб'ёмаў алкагольнай прадукцыі**

Асобы, якія ажыццяўляюць вытворчасць алкагольнай прадукцыі і яе аптовы гандаль, абавязаны прадстаўляць дэкларацыю аб аб'ёме выробленай, экспартуемай, імпартуемай, нерэалізаванай і нявыкарыстанай алкагольнай прадукцыі ў парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 29. Інфармаванне насельніцтва аб прычыненні шкоды здароўю спажываннем алкагольнай прадукцыі**

У навучальных установах у парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, павінна быць прадугледжана правядзенне заняткаў, якія накіраваны на фарміраванне здаровага ладу жыцця, абмежаванне спажывання алкагольных напіткаў і змяшчаюць звесткі аб прычыненні іх ужываннем шкоды здароўю грамадзян.

Беларускае радыё і тэлебачанне ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, трансліруе тэле- і радыёперадачы, якія змяшчаюць інфармацыю, накіраваную на фарміраванне здаровага ладу жыцця насельніцтва.

**Артыкул 30. Адказнасць за парушэнні ў сферы вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі**

За парушэнне прадугледжаных гэтым Законам патрабаванняў юрыдычныя і фізічныя асобы, у тым ліку прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАВА 7. Заключныя палажэнні**

**Артыкул 31. Уступленне гэтага Закона ў сілу**

Гэты Закон уступае ў сілу з дня апублікавання.

**Артыкул 32. Прывядзенне заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам**

Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам яно прымяняецца ў той частцы, у якой не супярэчыць гэтаму Закону, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

унесці ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, падпарадкаванымі Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

20 ліпеня 1998 г., г. Мінск.
№ 193-З

**У 1996 годзе ў Беларусі быў прыняты новы Закон «Аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету». У рамках рэалізацыі палажэнняў гэтага дакумента па даручэнню ўрада Міністэрствам лясной гаспадаркі сумесна з усімі зацікаўленымі бакамі (таварыствамі паляўнічых, вучонымі, спецыялістамі-практыкамі) было распрацавана новае Палажэнне аб паляванні і вядзенні паляўнічай гаспадаркі ў Рэспубліцы Беларусь, якое было зацверджана ўрадам краіны 30 снежня 1997 года. Пасля гэтага былі распрацаваны, зацверджаны, зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі і дасланы для выканання ўсім карыстальнікам — арандатарам паляўнічых угоддзяў — новыя правілы палявання. Новае Палажэнне закранае практычна ўсе пытанні, звязаныя з паляўнічай дзейнасцю як лясгасаў, так і асобных паляўнічых, фактычна мяняе правілы палявання. Больш падрабязна аб гэтым — у эксклюзіўным інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» намесніка начальніка ўпраўлення лясной і паляўнічай гаспадаркі Мінлясгаса Віктара КАРОГВІЧА.**

# ПАЛЯЎНІЧЫХ ЧАКАЮЦЬ ЭКЗАМЕН,

## новыя пасведчанні і...чарговы сезон палявання

**— ВІКТАР ІВАНАВІЧ, чым увогуле было выклікана з'яўленне новых правілаў палявання? Былая практыка вядзення паляўнічай гаспадаркі сябе не апраўдала?**

— Колішняя практыка, якая дзейнічала з 1987 года, стварала пэўныя нязручнасці як для паляўнічых, так і для органаў дзяржаўнага кіравання. Чаму? У нас паляванне размеркавана па цыклах, па сезонах: вясной адкрываецца веснавое паляванне на птушак, таксама ёсць сезон летне-восеньскага палявання, потым ідзе асенне-зімовы сезон палявання на пушных звяроў, ёсць яшчэ паляванне на дзікіх капытных жывёл. Раней у гэтай сувязі ў год пісалася 4-5 адпаведных загадаў, якія праходзілі шматлікія ўзгадненні і забіралі шмат часу . З іншага боку, тэрміны іх уводзення з году ў год мала чым адрозніваліся. Умоўна кажучы, паляванне на птушак традыцыйна пачыналася першага або сёмага жніўня, сезон палявання на зайцоў і іншых пушных звяроў адкрываўся або ў канцы кастрычніка, або ў пачатку лістапада. Але і тут былі нязручнасці, бо паляўнічым трэба загадзя планаваць свой адпачынак. Таму мы пайшлі па шляху многіх цывілізаваных краін свету: заклалі ў правілы палявання пэўныя параметры — тэрміны, якія па сутнасці не будуць змяняцца. Зразумела, пры форс-мажорных абставінах (паводка, засуха) адпаведным загадам будуць уносіцца карэктывы ў тэрміны...

**— Іншымі словамі, праз некалькі дзён паляўнічы можа смела ісці ў лес са стрэльбай, бо традыцыйнага загада міністэрства аб адкрыцці летне-асенняга сезона палявання не будзе?**

— Так, паляванне на вадаплаўную і балотную дзічыну, вальдшнэпа дазваляецца з першай суботы жніўня па апошнюю нядзелю лістапада. Далей, напрыклад, паляванне на зайцоў і лісіц аўтаматычна пачынаецца з першай суботы кастрычніка і доўжыцца да трэцяй нядзелі студзеня. Скажам, веснавое паляванне на самцоў цецерука дазволена ў перыяд з 20 сакавіка па 10 мая з пачатку такавання да 7 гадзін раніцы і г.д. Паляўнічыя будуць загадзя ведаць усе патрэбныя ім даты тэрмінаў палявання.

**— Што яшчэ змянілася ў правілах палявання?**

— Акрамя тэрмінаў — яшчэ прылады і спосабы палявання. Дарэчы, мы павялічылі колькасць дзён палявання. Калісьці схадзіць на паляванне ў нас можна было толькі ў святочныя дні або суботу-нядзелю. Але самі ведаеце, надвор'е падвяло, яшчэ нейкія абставіны, і чалавек не змог трапіць у лес. Таму мы далі дазвол арандатарам паляўнічых угоддзяў, зыходзячы з уласных магчымасцяў і сіл, павялічыць колькасць дзён палявання да пяці на тыдзень. Гаспадаркі ж таксама розныя ёсць. Недзе лепшае тэхнічнае абсталяванне, добрая егерская служба, шмат звяроў — чаму б гэта не выкарыстаць. Уявіць наша Палессе, пойму Прыпяці. Там паляўнічая гаспадарка можа прыняць тысячы паляўнічых падчас сезона на качку. З іншага боку, калі ў гаспадарцы практычна няма вадаёмаў, навошта ёй пяць дзён на тыдзень дазваляць паляванне на вадаплаўную і балотную дзічыну? Але, зазначу, арандатары паляўнічых угоддзяў у рамках тых межаў, што закладзены ў новых правілах, могуць самастойна рэгуляваць колькасць дзён палявання ў бок змяншэння, а не павелічэння. Усё гэта датычыць і зайцоў, дзікіх капытных звяроў і інш. Закладзены і новы парадак нарміравання здабычы паляўнічых жывёл. Калі раней мы пісалі: у дзень на аднаго чалавека дазваляецца здабыць не больш пяці качак, аднаго цецерука і г.д., дык зараз такое права (вызначаць нормы здабычы) зноў жа перададзена арандатарам паляўнічых угоддзяў. Разумееце, шанаванне ёсць шанаванне. Паляўнічы можа выпісаць пуцёўку і нічога не здабыць. Тым больш, патроны зараз дорага каштуюць. Калі раней паляўнічы за дзень мог расстраляць і 60 патронаў, дык зараз падчас палявання можа стрэліць раз-другі — толькі калі ўпэўнены, што пацэліць. Таму, як паказала практыка, абмежаванні пры паляванні на птушку, на зайцоў, напрыклад, не апраўдваюць сябе.

**— Ці ёсць змяненні ў выдачы паляўнічых пуцёвак і разавых дазволаў на здабычу жывёл?**

— Так, яна таксама карэнным чынам змянілася. Калі раней паляўнічы набываў ліцэнзію на здабычу, скажам, дзіка, дык перад гэтым ён яшчэ аплачваў кошт паслуг, якія яму прадстаўляліся. Па шматлікіх прапановах паляўнічых цяпер вырашана браць плату за здабытага дзіка, як кажуць, па факту. Так, паляўнічы плаціць за паслугі ў працэсе палявання, але чаму ён адразу павінен аддаваць грошы за нездабытую дзічыну? Ён яе не тое каб забіць, нават можа ўвогуле не ўбачыць.

Дазвол на здабычу каштоўных відаў жывёл, а ў нас гэта лось, дзік, казуля, алень, глушэц, бабровыя, па новых правілах будзе выпісваць не на брыгаду паляўнічых, а на адказную асобу (дырэктар паляўнічай гаспадаркі, егер), якая і будзе кантраляваць працэс здабычы жывёл належным чынам. Скажам, прыехала раніцай брыгада паляўнічых, адказная асоба ўпісвае прозвішчы ўсіх у пуцёўку і, калі яны здабылі жывёлін, пуцёўка закрываецца. Калі не, у прынцыпе, яе можна выкарыстоўваць і надалей, рыняўшы па ёй іншую брыгаду паляўнічых.

**— Новыя правілы не скасоўваюць конкурс па адстрэлу ваўкоў і ўзнагароды за перамогу ў ім?**

— Правілы гэтыя пытанні не закранаюць. У нас праводзіцца конкурс па барацьбе з браканьерствам, конкурс на лепшую брыгаду па здабычы ваўкоў. Іх пераможцы ўзнагароджваюцца і грашовымі прэміямі, і бясплатнымі дазволамі на здабычу жывёл.

**— А з якой мэтай для паляўнічых уводзіцца экзамен?**

— На падставе Закона «Аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету» і новага Палажэння аб паляванні і вядзенні паляўнічай гаспадаркі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у нашай краіне зменены парадак прадастаўлення права на паляванне. Раней такое права давалася адным з трох паляўнічых таварыстваў: Беларускім таварыствам паляўнічых і рыбаловаў, ваенна-паляўнічым і таварыствам «Дынама». Чалавек атрымліваў членскі білет, звяртаўся ў органы ўнутраных спраў, набываў стрэльбу, затым пуцёўку і ішоў у лес.

**— Дык у чым была праблема, калі старую практыку вырашылі карэнным чынам змяніць?**

— У ёй хаваліся пэўныя недахопы, якія асабліва праявіліся ў апошнія гады. Тры паляўнічыя таварыствы існавалі як бы самі па сабе — агульнага банка даных паляўнічых краіны не было. Скажам, нейкі чалавек парушаў правілы палявання, яго выключалі з таварыства за браканьерства. Ён знаходзіў магчымасць прыехаць з Брэста ў Мінск, з Мінска ў Віцебск і г.д. і ўжо ў іншым таварыстве зноў атрымаць членскі білет. Бывалі выпадкі, калі браканьер зноў «уладкоўваўся» ў тым жа таварыстве, але ў іншым раённым савеце. А мог яшчэ з ваеннага перайсці ў грамадзянскае таварыства.

Дзікія жывёлы па нашаму заканадаўству — гэта дзяржаўная ўласнасць. Паляванне — толькі права карыстання гэтымі жывёламі. Таму ў многіх краінах быў уведзены прынцып, калі менавіта дзяржаўныя органы давалі права на карыстанне жывёламі, г. зн. на паляванне. Законам «Аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету» ўстаноўлена, што дакументам, які дае права на паляванне, з'яўляецца дзяржаўнае пасведчанне. І на нас, Міністэрства лясной гаспадаркі, была ўскладзена задача па іх выдачы. Дзяржаўныя пасведчанні ўжо ўведзены ў Латвіі, ва Украіне. Але перад атрыманнем пасведчання паляўнічыя павінны здаць спецыяльны экзамен. Навошта? У апошнія гады па лініі таварыстваў былі адменены кандыдацкі стаж, а іх рады ў асноўным папаўняла моладзь, як правіла, непадрыхтаваная. Адсюль — розныя здарэнні на паляванні. Таму экзамен уводзены, каб дысцыплінаваць паляўнічых, асвяжыць іх веды. Рыхтавацца да экзамена можна і самастойна, але лепш пры таварыствах, прадпрыемствах лясной гаспадаркі і інш.

Урадам нам даручана да канца 1998 года выдаць усім паляўнічым пасведчанні дзяржаўнага ўзору. Увогуле, хачу зазначыць, што ў многіх краінах вельмі жорсткі падыход да гэтай працэдуры. У Германіі тры гады трэба праходзіць стажыроўку, ведаць біялогію жывёл, правілы бяспекі і паляўнічую зброю. Ва Украіне, наколькі я ведаю, таксама збіраюцца прымаць экзамен як у ДАІ: з праграмай на камп'ютэры, білетамі. У нас такога не будзе, але з цягам часу нейкія курсы, магчыма, будзем арганізоўваць.

Пасведчанні ўжо выдаюцца ў Мінску і Мінскай вобласці, пачалася выдача ў Магілёўскай вобласці.

**— Дзякуй за размову, Віктар Іванавіч. А ўсіх паляўнічых віншуем з пачаткам сезона. І — удачы!**

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



Малюнак Аляксандра КУРЫЛЫ.

*ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ*

# ПАЎТАРЭННЕ — ЗАЎСЁДЫ ФАРС?..

**Пісьмы атрымліваць заўсёды прыемна. Атрымліваць пісьмы журналісту прыемна ўдвая, прашу паверыць на слова. Таму што калі ўдалося абудзіць чыесьці душу і галаву — гэта можа быць толькі добра. Думаць заўсюды лепш, чым не думаць.**

**7 ліпеня выйшаў мой матэрыял «Яппі, альбо я гэтага дастойны», а ўжо 14-га я атрымаў ліст ад Аркадзя Жукоўскага з Гродна з «разборам палётаў», яго нейкімі думкамі з нагоды тэмы артыкула. Ён — інжынер-механік на пенсіі, працуе і зараз, але ўжо проста рабочым. Аркадзь (на жаль, імя па бацьку не ўказана) чамусьці называе сябе «сівым рэтраградам». Верагодна, лічыць, што ўзрост аўтаматычна пераводзіць чалавека ў гэтую катэгорыю. Я так не думаю, я ўвогуле не думаю, што кансерватызм — а гэта мае на ўвазе мой візаві — гэта дрэнна. Толькі адзін з бакоў любой асобы, не больш таго. Прычым, неабходны, без якой асоба будзе няпоўнай.**

Дык вось, адзін чалавек — маналог, два чалавекі — дыялог. Дыялог, натуральна, лепш, чым маналог. Карціна з'явы становіцца больш багатай. Тым больш, што ў артыкуле я наўмысна абыходзіў нейкія пытанні. Мне хацелася, каб мяне дапоўнілі. Дый увогуле, маналогі апошнім часам надакучылі, марыцца аб спрэчцы. Як цывілізаваным сродку зносінаў паміж людзьмі.

❶

«...Я не згодзен, — піша Аркадзь Жукоўскі, — з пэўнымі ацэнкамі і падыходамі да праблемы «яппі» у нас у Беларусі. Ужо сам выбар прыкладу 14-гадовага хлопца не вельмі ўдалы. Звужае спектр сітуацыі. Нельга ўсур'ёз разглядаць дзіцячую зайздрасць як важную матывацыю дзеянняў. Ад 14 гадоў яны 100 разоў могуць змяніцца. Гора, калі нязменнай застанецца вось гэтая зайздрасць! Бо яна ж таксама ў нас з таго жыцця, вельмі савецкая. З таго ж часу, калі як вы пішаце, «начэй не спалі і выбіралі паміж «пед» і «мед». І тады хапала такіх, што пераставалі чытаць у 12 гадоў, а ў 18 гадоў пераконвалі, што няма больш цікавай кніжкі, чым «Марксізм»... потым пралазілі ў КПСС, станавіліся тагачаснымі «яппі», якім партбілет і адсутнасць маральных тармазоў забяспечвалі шлях па службовай лесвіцы пры наяўнасці вельмі сціплага прафесійнага багажу».

На мой погляд, выдатна напісана. Толькі я не магу пагадзіцца з усім.

Ясна, што да моманту паўналецця 14-гадовы хлопец мноства разоў памяняе, так бы мовіць, арыентацыю. Але не матывацыю. Калі мы гаворым пра звычайных людзей, а мы гаворым такі пра іх, то зайздрасць для звычайных людзей звычайнае, прашу прабачэння за каламбур, пачуццё. Што характэрна, зайздрасць нарадзілася зусім не ў савецкія часы. Яна ўзнікла разам з чалавекам, з ім і знікне, калі будзе на тое воля Божая.

Іншая справа, што менавіта ў савецкія часы глеба для зайздрасці была старанна падрыхтавана і ўгноена. Лічылася, што мы ўсе былі роўныя. Гэта, дарэчы, таксама ўласціва прыродзе масавага чалавека: усё, што ўзвышаецца па-над раўнінай, падлягае бязлітаснаму знішчэнню. Ці ў мастацтве, ці ў навуцы, ці ў любым іншым родзе дзейнасці. Незразумелае, нелагічнае, асабовае пужае масавага чалавека, ён гэтага не пераносіць. І знішчае. Гэта падаецца, як воля народа. Самае смешнае, што так і ёсць — воля народа. Любая ўлада на тым і трымаецца. І Сталін у нас, і Гітлер у немцаў — гэта была воля народа. А калі б не воля, то ні першы, ні другі не пратрымаліся наверсе і года. Ды яны б увогуле не атрымалі ўладу.

Але вернемся да нашых «яппі».

Сапраўды, раней шлях «яппі» пралягаў праз камсамол, далей праз КПСС. Па-іншаму не выходзіла. Мы ўсе добра ведаем, што мноства дастойных, таленавітых сумленных людзей былі вымушаны ўступаць у партыю, каб зрабіць кар'еру, каб атрымаць пасаду кіраўніка завода, інстытута, тэатра і г. д. Так што я не стаў бы ўсіх мазаць чорнай фарбай.

Зазірнём у нашы дні. Што змянілася? Методыка дасягнення жыццёвага поспеху ў сваіх агульных рысах не памянялася. «Адсутнасць маральных тармазоў» сёння мае месца, нават у большай ступені, чым раней. Раней, праўда, прыкрываліся ідэалогіяй. Зараз кажуць проста: там плацяць больш. Пры тым, што тут я згодзен з Аркадзем, «прафесійны багаж вельмі сціплы». Правільна, мярылам служыць не ён, а гатоўнасць калі не аддаць жыццё за «шэфа», дык быць яму верным сабакам. Пакуль «шэфа» не папруць з пасады.

❷

«...Я ўсё гэта да таго, што тып паспешлівых «яппі» так званае «дастойнае жыццё» ўспрымае ў кіношным варыянце: хутка і без высільвання. Пры гэтым, усё сыходзіць да сферы чыста фінансавай. Без усведамлення сваіх магчымасцяў і здольнасцяў, без разумення патрэбы ўпартай працы. Але, каб добра плацілі — трэба добра працаваць. А для гэтага другога — трэба стаць здольным і працавітым, майстрам нейкай справы. А ў нас ужо з пазаўчора ўсе лічаць, што маюць права, каб ім забяспечылі прыстойнае жыццё. У адваротным выпадку яны гатовы (маральна) дасягнуць яго любым спосабам. Часта — крымінальным. Часта гэта вынікае з вельмі савецкай рысы: крыўды на багатых і маргінальнай зайздрасці».

Усё так, не паспрачаешся. Але зноў жа, патрэбны карэктывы.

Я зноў паўтару, што крыўда на багатых, зайздрасць — гэта зусім не савецкія рысы, яны — агульначалавечыя. Калі жабрак у Нью-Йорку ненавідзіць багатага, то яго нянавісць нічым не адрозніваецца ад нянавісці жабрака ў Мінску.

А далей — усё правільна. Дзе самы высокі конкурс? У ВНУ эканамічнага профілю, прасцей сказаць, дзе даюць спецыяльнасць, звязаную з грашыма. Куды марыць уладкавацца малады чалавек «з запытамі»? У камерцыйную фірму, дзе зноў жа, усё пабудавана на грашовым інтарэсе і толькі на ім. І тут нічога дрэннага няма. Няхай паступаюць у інстытуты, уладкоўваюцца ў фірмы, няхай будзе больш багатых — гэта нармальна, ненармальна, калі бедных больш,.

Аднак узнікае праблема «чалавек — абставіны». Іншымі словамі, абставіны лепяць чалавека. Можна быць, «майстрам нейкай справы», неаспрэчным аўтарытэтам, працаголікам. І не мець пры гэтым нічога. Ці т. зв. «пражытачны мінімум». І наадварот, не ўяўляць з сябе нічога, але мець усё — дастаткова распаўсюджаная зараз сітуацыя. Не трэба ні ведаў, ні здольнасцяў, ні працалюбства, хопіць вядомай ступені нахабнасці і бессаромнасці. А што вы хацелі? Абставіны ж лепяць чалавека, а не наадварот.

Так што перад нашым «яппі» на самой справе выбар небагаты: быць бедным альбо быць багатым. Інакш: быць сумленным, але бедным, ці быць несумленным, але багатым. Выпадак, калі і сумленны, і багаты — вельмі рэдкі, ён хутчэй выключэнне. «Чорны рынак», «шэры рынак», усё гэта не прыдумкі журналістаў. Удзельнічаючы ў іх, ты ўжо парушаеш закон, якім бы дурным ён ні быў. Умовы гульні.

Усё можна зразумець і растлумачыць, нарэшце, апраўдаць. Мяне толькі пужае, што пры гэтым грамадства разбураецца, бо разбураецца яго падмурак. А падмурак любога грамадства, любой дзяржавы — дух, духоўнасць. Урваць свой кавалак — не ёсць духоўнасць...

❸

«...Я больш дваццаці гадоў кіраваў рабочымі і наймаў іх на працу. Заўважыў у 70-х такую акалічнасць. Рабочыя, што атрымалі прафесію яшчэ «за польскім часам», вельмі старанныя ў выкананні працы, вельмі цэняць сваё прафесію і не часта мяняюць прафесію. А калі мяняюць, то па важнай прычыне. А мае аднагодкі (я з 1937 года) і маладзейшыя давалі працоўную кніжку, дзе за 2 гады па 3—4 запісы. Уладальнік, калі верыць кніжцы, мае 8—10 прафесій, а часта і кала застругаць не здолее.

Вось калі чалавек будзе імкнуцца мець у руках рамяство (у самым шырокім сэнсе), калі ён будзе ў гэтым рамястве працаваць шмат і добра — тады гэта будзе «яппі», а не яго зайздрослівае і прагна-бяздумнае падабенства. Некаму ж трэба будзе быць не толькі менеджэрамі ці ўладальнікамі фірмы, але і рабочым, інжынерам, селянінам. Між гэтых катэгорый, цалкам натуральна, могуць існаваць свае «яппі», што будуць рухацца па службовай лесвіцы ў маштабах сваіх здольнасцяў...»

А вось нявыгадна, паважаны спадар Аркадзь, нявыгадна сёння мець рамяство. Можа быць, толькі патэнцыяльна. Ці ў выпадку, калі ты працуеш самастойна — напрыклад, сталярнічаеш, альбо плітку выдатна кладзеш. Крый Божа зарэгістравацца афіцыйна — задушаць падаткамі і вымаганнем хабару.

Вы, Аркадзь, намалявалі прыгожую і разумную карціну. Праўда, яна — справа будучага. Менавіта якога — нават сказаць цяжка. Мы працягваем жыць як бы па інерцыі, ездзім на рэштках таго гаручага, а бензакалонкі, вобразна кажучы, няма і не відаць. У нейкім сэнсе наша сённяшняе жыццё нагадвае фарс. Не трагедыю, хоць, як быццам, усе прыметы ёсць, а фарс. Бо мы з упартасцю, дастойнай лепшага прымянення, паўтараем тое, што іншыя даўно прайшлі, перажылі і забылі. У гісторыі паўтарэнне — заўсёды фарс.

У той жа гісторыі, дарэчы, для нас ёсць невялікі шанц, бо яна ўсё ж такі развіваецца па спіралі. І выходзіць, што праз нейкі час мы зноў апынёмся ў энным годзе. І зноў пачнём усё з самага пачатку. Хочацца верыць, што не з нуля.

Дай нам, Божа, сілы...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*Дырэктар Гомельскага лясгаса Пётр ЗЯЛЁНЫ:*

# «ЛЕС, ЯК І ДЗІЦЯ, ПАТРАБУЕ ДА СЯБЕ ЧУЛЫХ АДНОСІНАЎ,

## АЛЕ, НА ЖАЛЬ, НЕ КОЖНЫ ЧАЛАВЕК ГЭТА РАЗУМЕЕ»

***ПРАДСТАЎЛЯЕМ субяседніка. Пётр Пятровіч Зялёны — дырэктар Гомельскага лясгаса на працягу дваццаці апошніх гадоў. А да таго з адзнакай закончыў Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум і паступіў на стацыянар у Мінскі тэхналагічны інстытут імя Кірава. Вучыцца ж там давялося на завочным аддзяленні, бо не было патрэбнай матэрыяльнай падтрымкі. Спачатку працаваў у Нараўлянскім лясгасе ўчастковым тэхнікам-лесаводам, памочнікам ляснічага, ляснічым. У 1966 годзе быў пераведзены ў Акцябрскі лясгас на пасаду галоўнага ляснічага, якую займаў пяць гадоў, пасля чаго яму даверылі ўзначаліць гэты калектыў. А праз сем гадоў новая прапанова — Гомель.***

***Пад яго кіраўніцтвам Гомельскі лясгас выконваў і выконвае ўсе адведзеныя заданні і, як гавораць, бярэ новыя вышыні, не губляецца ў самых складаных сітуацыях, якія сустракаліся і сустракаюцца на яго шляху.***

***Лес для чалавека і дырэктара Зялёнага — гэта не проста, прабачце за каламбур, «зялёны сябар». Лес для яго — сосны, елкі, бярозы, дубы, вольхі — гэта дзеці, якім ён са сваім калектывам дае жыццё, калі высаджвае той лес, і песціць-вырошчвае тыя дрэўцы, даглядае іх, аберагае ад пажараў і розных шкоднікаў.***



> **Лясная гаспадарка краіны павінна выконваць свае функцыянальныя абавязкі, а менавіта: аднаўленне і ахову лясоў. Прамысловая ж перапрацоўка ў ёй не павінна быць пануючай. Нам жа зверху даводзяць такія заданні: прырост прамысловай вытворчасці да ўзроўню папярэдняга года, да чаго асабіста я стаўлюся крайне негатыўна. Бо ўпэўнены, што для нашай галіны галоўнае — каб было больш прадуктыўных лясоў, каб яны былі спелымі, якаснымі, дагледжанымі, каб дарогі там былі добрыя, каб не было іншых «белых плям».**

**— Пётр Пятровіч, аб працы людзей, якія звязалі сваё жыццё з лесам, я ведаю не з чужых слоў і не з кніг. Мой брат сваю працоўную дзейнасць пачынаў таксама з лесу і лесам закончыў яе, пайшоўшы на пенсію. Мяркую, заслужаны адпачынак неўзабаве, як кажуць, пастукаецца і да вас. З вышыні пражытых гадоў, прыгадваючы цяжкую працу лесавода на ўсіх яе службовых прыступках, скажыце, ці было калі-небудзь у вас шкадаванне, што абралі такую неспакойную прафесію?**

— Ніколі не было такога шкадавання і не будзе. Прызнаюся: калі б меў магчымасць пражыць яшчэ адно жыццё, зноў стаў бы лесаводам. Лес для мяне вельмі многае значыць. Гэта маё жыццё.

**— Ваш лясгас — прыгарадны, і, вядома, на яго работнікаў кладуцца вялікія нагрузкі, гэтак жа як і на сам лес. Відавочна, у сувязі з гэтым ёсць нейкія асаблівасці ў дзейнасці вашага калектыву?**

— Важнае пытанне, і адкажу я на яго наступным чынам. Гомель з'яўляецца даволі буйным горадам, і яго з усіх бакоў акружаюць лясы, куды зімой і летам выязджаюць гараджане. Таму і нагрузка на яго куды большая, чым, скажам, у якім-небудзь палескім раёне. Дык вось, лясы нашай гаспадаркі раскінуліся на тэрыторыі Гомельскага, Добрушскага, Рэчыцкага і Лоеўскага раёнаў і зараз займаюць крыху больш за сто тысяч гектараў. Да выбуху на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі гэта лічба перавышала 150 тысяч гектараў. Пасля яго, калі была выяўлена вялікая забруджанасць радыенуклідамі часткі лясоў, утварыўся Веткаўскі спецлясгас, куды адышла частка лясоў з нашага і Чачэрскага лясгасаў.

Хачу заўважыць наступнае. Тое, што нагрузка на нашага «зялёнага» сябра большая, чым дзе-небудзь у іншым месцы, — з'ява нармальная. Многія людзі выязджаюць на прыроду, пад шаты магутных дубоў і стромкіх соснаў, у бярозавыя гаі, дзе такая прыгажосць. Іншыя сабіраюць там грыбы, ягады, іншыя дарункі лесу. Але ж людзі бываюць розныя: адны паводзяць сябе там як мае быць, другія ж, прабачце, па-варварску — ламаюць і трушчаць маладыя дрэўцы, браканьераць, распальваюць вогнішчы і пакідаюць іх без нагляду. Таму і ўзнікаюць тыя складанасці ў нашай рабоце, звязаныя не толькі з самавольнымі высечкамі зялёных насаджэнняў, але і пажаратушэннем.

Лес — безабаронны. Яго нічым не зачыніш, нічым не загародзіш, ён даступны для ўсіх у любую пару года, у любы час сутак. І, мяркую, не памылюся, калі скажу, што яго стан залежыць ад адносінаў да яго людзей. Прывяду такі прыклад. У 1996 годзе ў нашым лясгасе адбылося больш як трыста выпадкаў пажараў. Няўжо яны ўзніклі самі па сабе? Дзе там! Прычына — у чалавеку, у нейкім канкрэтным чалавеку, які дапусціў ці то халатнасць у лесе, ці то нядбайнасць, ці то неакуратнасць.

**— А можа і злачыннасць?**

— Так, і злачыннасць. З шасцідзесяці выпадкаў лясных пажараў летась з верталёта было зафіксавана сем наўмысных падпалаў. Як выявілася, зламыснікі гэткім чынам за нешта помсцілі ці то леснікам, ці то ляснічым. Неверагодна, але факт. І як тут не назваць гэта дзікунствам ці варварствам?

Пажары — злейшы вораг лесу, бо яны знішчаюць не толькі драўніну, але і ўсё і ўсіх, хто жыве ў ім і што расце, што складае прыродную разнастайнасць у ім — і флору, і фауну. Вось чаму на ахове лесу ў нас стаіць вялікі атрад работнікаў. Кожнае лясніцтва мае пажарныя вышкі, з якіх вядзецца назіранне за навакольнымі лясамі з тым, каб патушыць пажар, калі ён узнікне, у самым яго зародку. Для гэтага ў нас маюцца пажарныя машыны, якія гатовы даставіць каманды пажарнікаў у любую кропку і ў максімальна сціслыя тэрміны. Апошнім часам гэта нам удаецца, бо ў работнікаў і дысцыпліна палепшылася, і адказнасць кадраў узрасла, і тэхнікай мы забяспечаны.

Да таго ж калектыў робіць вялікую колькасць мінералізаваных (процістыпажарных) палос, падпраўляе старыя і стварае новыя, узорвае найбольш небяспечныя ўчасткі лесу. Значныя сродкі адпускаем мы і на такі від проціпажарнай работы і прапаганды, як лістоўкі ў тралейбусах, у лясных альтанках (дарэчы, мы пабудавалі іх вельмі многа) з заклікамі берагчы лес. Толькі ў 1977 годзе, напрыклад, на проціпажарную тэматыку мы зрасходавалі дзвесце мільёнаў рублёў.

**— Напэўна, і рэйды праводзіце?**

— А як жа. Для гэтых мэтаў выдзелілі спецыяльную машыну, якая патрулюе дарогі і ахоўвае лес ад самавольных высечак зімой і ад пажараў летам, у спёку. У рэйдах прымаюць удзел і работнікі Дзяржкампрыроды, і міліцыі. Дарэчы, мы вялі перамовы з райаддзелам унутраных спраў аб тым, каб за наш кошт утрымліваць у сваім штаце работніка міліцыі і зараз ён працуе ў нас.

Лічу, што такая змычка дазволіць выйсці на больш высокі ўзровень у навядзенні парадку ў лесе не толькі па ўказаных пытаннях, але і ў барацьбе з браканьерствам і наогул з усімі тымі, хто хоча ў лесе пажывіцца ці нашкодзіць і нічога яму не даць. У нас асабліва цярпяць ад лясных пажараў такія прыгарадныя лясніцтвы, як Прыбарскае і Макееўскае, дзе лясная сцяна, як гаворыцца, прымыкае да самага горада. Кантору апошняга лясніцтва мы нават вымушаны былі перанесці з вёскі Цыкуны, дзе яна знаходзілася раней, бліжэй да горада, у раён комплексу бальніц, і сканцэнтравалі там пажарную машыну, ляснічых, лясную ахову, што дазваляе ў любы момант выехаць у так званую крытычную кропку для неадкладнага прыняцця мераў. Падобнае зроблена і ў Прыбарскім лясніцтве.

**— Я разумею вас, Пётр Пятровіч. Вядома ж, крыўдна, што не заўсёды вашы намаганні знаходзяць разуменне ў нашых людзей, у выхаванні і паводзінах якіх столькі хібаў. Аднойчы я сам, напрыклад, бачыў у лесе ўшчэнт раструшчаную новенькую альтанку, зробленую з любоўю. Не дзік жа яе ці лось гэтак раскурочыў. Як вы думаеце, ці дастаткова ўвагі ўдзяляецца ў нашым грамадстве экалагічнаму выхаванню?**

— Вядома ж не. Як і наогул выхаванню. Ёсць нейкія спробы, але ж стройнай сістэмы няма. У сувязі з гэтым хачу прывесці такі павучальны прыклад. Ёсць у нас Грабаўскае лясніцтва, якое ўзначальвае Валерый Мацвеевіч Чувасаў, вельмі талковы спецыяліст і выдатны арганізатар. Дык вось, з яго дапамогай і актыўным удзелам там у мясцовай школе з біялагічным ухілам створаны два школьныя лясніцтвы. Вучням выдзелены ўчастак лесу, які яны даглядаюць, купілі ім спецыяльную форму, яны збіраюць шышкі, травы, прымаюць актыўны ўдзел у ачыстцы лесу, навядзенні там парадку. Як бачна, тут не толькі тэарэтычная прапаганда наконт неабходнасці берагчы лес, але і практычная — як трэба прывіваць любоў да прыроды са школьнай парты. І калі б такая ці іншая форма работы існавала ва ўсіх школах (маю на ўвазе выхаванне любові да прыроды), то прыведзеных заганных прыкладаў намнога б паменела. А так што? На адных штрафах далёка не паедзеш.

**— Дарэчы, якія яны?**

— Летась за самавольныя высечкі мы склалі 300 пратаколаў на пяцьдзесят мільёнаў рублёў (тады было высечана 270 кубаметраў лесу), 60 пратаколаў на трынаццаць мільёнаў рублёў штрафаў за парушэнне пажарнай бяспекі і 14 пратаколаў на 21 мільён рублёў — за браканьерства. А ўсяго ж за розныя парушэнні мы спагналі з вінаватых 111 мільёнаў рублёў. Гэта ж робім і зараз. Але вось пытанне: ці здольны мы заспець на месцы ўсіх парушальнікаў? Вядома ж не.

Ёсць тут і яшчэ адзін нюанс. Раней было такое палажэнне ці правіла: дзевяноста працэнтаў ад усёй сумы штрафаў заставалася ў лясгасе, і мы мелі магчымасць заахвочваць тымі грашыма ці нейкай каштоўнай рэччу (веласіпедам, матацыклам, напрыклад) лепшых сваіх работнікаў, тым больш, што бюджэтная забяспечанасць лясгасаў яўна недастатковая. Зараз жа грошы за штрафы, згодна з рашэннем заканадаўчых органаў, асядаюць у мясцовым бюджэце. Я лічу гэта няправільным і зазначу, што хаця з-за ўказанага нашы працаўнікі не зніжаюць узроўню сваёй работы (гэта наш прамы абавязак), аднак мы не можам ужо як след заахвоціць таго, хто ўстанаўлівае «шлагбаум» перад парушальнікамі. Тым болей, што іншым разам гэта спалучаецца з рызыкай, а потым яшчэ і па судах трэба хадзіць.

**— А як аплачваецца нялёгкая праца лесаводаў?**

— Не вельмі добра. Тарыфная стаўка ў лесніка — 950 тысяч рублёў у месяц, у ляснічага — 1600 тысяч, у рабочага — 1100 тысяч. Прыбавім сюды прэмію — 50—70 працэнтаў. Вось і лічыце, многа гэта ці мала.

**— Яшчэ адна асаблівасць вашых лясоў у тым, што да іх прымыкаюць садова-агародныя кааператывы. Якія ў вас адносіны з імі?**

— Сапраўды, толькі ў Гомельскім раёне іх налічваецца, калі не памыляюся, звыш трохсот, большасць з якіх размешчаны недалёка або зусім побач з лясамі. І скажу, што яны задаюць нам шмат работы. Нехта хоча расшырыць свой агарод за кошт лесу, нехта — паваліць дрэва на будматэрыял або на дровы, нехта — выкінуць смецце ў лес. І не толькі хоча, але і робіць гэта. Змагаемся, як можам, супраць такіх. У памянёным ужо Грабаўскім лясніцтве, напрыклад, размешчана каля сарака такіх таварыстваў, і кіраўніцтва яго ўжо некалькі гадоў змагаецца за тое, каб тут як мага менш было парушэнняў. У ход ідуць і рэйды, і расклейванне вынятак з пастановы Савета Міністраў аб штрафных санкцыях да парушальнікаў ляснога заканадаўства, і складанне пратаколаў і г. д., і да т. п. Валерый Чувасаў бескампрамісны да іх, за што на яго мне паступаюць скаргі «пакрыўджаных». Разбіраюся з імі, тлумачу што да чаго. І вось пазітыўны вынік. Праводзімая ім работа прывяла да таго, што ў яго лясніцтве лясы чыстыя ад смецця і ламачча, і па гэтаму і іншых паказчыках у 1996 годзе Грабаўскае лясніцтва было прызнана лепшым у Рэспубліцы Беларусь, з чым яго калектыў павіншаваў наш міністр і ўручыў узнагароду — трактар.

**— Не маю на ўвазе, Пётр Пятровіч, ваш лясгас, аднак скажу, што ў лясах краіны яшчэ вялікая захламленасць. Чым гэта выклікана?**

— Не буду хваліцца, але скажу, што ў справе аздараўлення лясоў і навядзення ў іх парадку мы шмат што робім. І ў гэтай справе нам вельмі дапамагае Гомельскі гарвыканкам, хаця па тэрытарыяльнай прыналежнасці мы знаходзімся ў Гомельскім раёне і падпарадкоўваемся райвыканкаму. Дык вось, у гарвыканкаме было прынята рашэнне замацаваць участкі лесу за прадпрыемствамі і арганізацыямі, работнікі якіх восенню дапамаглі ачысціць іх ад смецця, прамысловых адходаў, якія хто-ніхто вывез у лес. Мы пастаянна трымаем сувязь з гарвыканкамам па ўказанаму пытанню, што дае карысць усім, бо ў нас налічваецца сем тысяч гектараў лесу так званага рэкрэацыйнага прызначэння (іншымі словамі, — аздараўляльнага, для прагулак і адпачынку).

А што датычыць захламленасці беларускіх лясоў, дык ёсць такая праблема, і складаецца яна з многіх фактараў. Вось толькі некаторыя з іх. Вядома, што наша краіна, дзе лясамі засаджаны кожны трэці гектар, гэта не Японія, дзе, у адрозненне ад нас, дасягнута вышэйшая ступень перапрацоўкі ўсяго, што знаходзіцца ў лесе. У рэспубліцы востра стаіць пытанне з энергазабеспячэннем, а скажыце, калі ласка, чаму не выкарыстоўваць дровы, трэскі, пілавінне, карчы, пні і да т. п. у маленькіх кацельнях бальніц, мехдвароў, калгасаў і саўгасаў? Гэта, вядома, добра, што шмат якія вёскі газіфікаваныя, але ж ці добра, што нават ужо загатаваныя леснікамі дрэвы нельга рэалізаваць: няма спажыўца. А ці многа ў рэспубліцы такіх сушылак, як у Лельчыцах, дзе цяпло для вытворчасці даюць адны дровы? Адзінкі іх. Так што на тэму захламленасці лясоў можна разважаць доўга, але толку ад гэтага будзе мала, калі як след не паставіць перапрацоўку драўніны ва ўсім яе аб'ёме на навуковую і, вядома ж, эфектыўную ступень.

**— Лесаводаў нярэдка называюць людзьмі, якія працуюць на будучае. Напэўна, маецца на ўвазе тое, што яны не заўсёды могуць бачыць, калі можна так сказаць, канчатковы вынік сваёй працы: вядома, што дрэвы растуць больш за сто гадоў — гэта, лічыце, два, а то і болей пакаленні людзей павінны даглядаць іх. Дык вось, Пётр Пятровіч, пытанне: колькі лясоў пасадзілі вы асабіста за сваё жыццё?**

— Дакладна падлічыць — справа вельмі цяжкая, але пасаджана іх даволі многа. Прывяду толькі адну лічбу: у нашым лясгасе 27,9 працэнта лясоў — штучныя, гэта значыць пасаджаныя нашымі рукамі. Можна назваць і другую лічбу — 300 гектараў. Столькі мы засаджваем лесу кожны год. Не проста засаджваем, а даглядаем яго, ахоўваем ад пажараў і шкоднікаў.

**— Здаецца, мы ўпусцілі пытанне прамысловай перапрацоўкі ў лясгасе драўніны...**

— Не, мы паступова ішлі да яго. І тут я хацеў бы паразважаць. Я лічу, што лясная гаспадарка краіны павінна выконваць свае функцыянальныя абавязкі, а менавіта: аднаўленне і ахову лясоў. Прамысловая ж перапрацоўка ў ёй не павінна быць пануючай. Нам жа зверху даводзяць такія заданні: прырост прамысловай вытворчасці да ўзроўню папярэдняга года, да чаго асабіста я стаўлюся крайне негатыўна. Бо ўпэўнены, што для нашай галіны галоўнае — каб было больш прадуктыўных лясоў, каб яны былі спелымі, якаснымі, дагледжанымі, каб дарогі там былі добрыя, каб не было іншых «белых плям». І не сакрэт, што прамысловая вытворчасць у лясгасах вельмі адцягвае калектывы ад іхніх асноўных задач. Але ці азначае гэта, што мы не займаемся прамысловай перапрацоўкай драўніны наогул? Не, не азначае, бо мы перапрацоўваем толькі дробнатаварную драўніну, якую атрымліваем пасля высечак догляду, і рыхтуем з яе пэўны від вырабаў: сасновыя і бярозавыя балансы, якія адпраўляем ва Украіну і Польшчу, ліштвы, некаторыя піламатэрыялы і да т. п.

**— А ці займаецеся вы нарыхтоўкай бярозавага соку, ягад і грыбоў?**

— Ягады і грыбы маюць пэўныя дозы забруджанасці пасля чарнобыльскай катастрофы, таму спраў з імі лясгас не мае, а вось сок нарыхтоўваем.

**— А ці падтрымліваеце вы ідэю дырэктара Інстытута лесу Нацыянальнай акадэміі навук акадэміка Віктара Аляксандравіча Іпацьева аб тым, каб стварыць у Гомелі агралесаінстытут?**

— Галасую за гэта дзвюма рукамі. Адкрыццё яго зняло б шмат праблем не толькі ў нашай лясной галіне, але і ў сельскай гаспадарцы, дзе, ведаю, таксама кадраў, асабліва ў чарнобыльскіх раёнах, не хапае.

На канец нашай размовы я хацеў бы на старонках газеты выказаць словы ўдзячнасці ўсяму нашаму калектыву, у якім зараз звыш чатырохсот чалавек і які стараецца як след выконваць сваю работу. Усіх старанных і ініцыятыўных працаўнікоў назваць тут, зразумела, проста немагчыма, але ўсё ж адзначу ляснічых Марыну Васільеўну Канцавую, Кацярыну Мікалаеўну Целеш, вадзіцеляў лесавозных аўтамабіляў Васіля Фёдаравіча Арцёменку, Вячаслава Уладзіміравіча Нікіценку, Мікалая Іванавіча Высоцкага, леснікоў Івана Данілавіча Скачкова, Васіля Іванавіча Чуйкова і іншых. На іх раўняюцца, з іх бяруць прыклад.

І я ўпэўнены, што наш калектыў пераадолее цяжкасці, якія сёння ёсць, і выйдзе ў сваёй дзейнасці на новыя рубяжы.

**Рэкламна-інфармацыйны матэрыял падрыхтаваў Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 29 (147)




## РОЗНАЕ

■ Мяняю кватэру ў 2-кватэрным доме (3 км ад Смаргоні) на 1-пакаёвую ў Маладзечне, Смаргоні ці прадам.
*Тэл. у Смаргонскім раёне 3-61-16, пасля 18.00.*

■ Ксеракопія, 1200 руб.
*Тэл. 253-92-26.*

■ Патрабуюцца паслугі: выкапаць катлаван і зманціраваць цокальны паверх дома.
*Тэл. у Мінску 232-88-79.*

■ Куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі і інш.
*Тэл. 253-24-41.*

■ Мяняю 4-пакаёвую кватэру ў Светлагорску на 1- і 2-пакаёвую ў Гомелі. Разгледжу любыя варыянты.
*Тэл. у Веткаўскім раёне 2-95-37.*

■ Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Паставах на 2-пакаёвую ў Маладзечне ці Лузе.
*Тэл. у Паставах 2-51-97.*

■ Куплю веласіпед б/к у любым стане да 600 тыс. руб.
*Тэл. 244-27-40.*

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Івацэвічах на кватэру ў Гродне.
*Тэл. у Івацэвічах 2-12-51.*

■ Куплю «МТЗ-80», 82 або «Т-25» б/к.
*Тэл. (8-017) 251-06-48.*

■ Абтынкую гараж, танна.
*Тэл. 273-35-97, з 18 да 21.*

■ Зраблю зруб для дачы ці лазні са свайго будматэрыялу.
*Тэл. у Стоўбцах 3-91-97, пасля 21.00.*

## У МВА «ХІМВАЛАКНО» ЁСЦЬ «МІЛЬЯНЕРЫ»

Менавіта «мільянерамі» цяпер маюць рацыю называць сябе работнікі завода арганічнага сінтэзу Магілёўскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно»: днямі хімікі выпусцілі мільённую тону поліэтылентэрыфталату, які выкарыстоўваецца для вытворчасці сучасных упаковачных матэрыялаў і зручных для спажыўцоў розных напояў пластыкавых бутэлек.

Абсталяванне для гэтай вытворчасці ў пачатку 80-х было пастаўлена вядомай нямецкай фірмай «Удэ». Амаль 15 гадоў спатрэбілася хімікам, каб выпусціць мільён тон прадукцыі, якая, што вельмі важна, карыстаецца вялікім попытам і знаходзіць збыт прама «з колаў».

З нагоды юбілею ў МВА «Хімвалакно» адбыўся мітынг, а лепшыя работнікі завода арганічнага сінтэзу атрымалі прэміі.

**Ілона ІВАНОВА.**

## Асабістае жыццё

**Аб. 770.** Мілыя дзяўчаты, адгукніцеся, чакаю вашых пісьмаў. Васіль, 22 гады, рост 170, па гараскопу Вадалей. Вілейскі раён.

**Аб. 771.** Пазнаёмлюся з мужчынам без шкодных звычак да 55 гадоў. Аб сабе: удава, 51/155/55. Жыву ў вёсцы ў Мінскай вобласці. Падрабязнасці пры перапісцы.

**Аб. 772.** Пазнаёмлюся з мужчынам без шкодных звычак. Аб сабе: 53 гады, рост 156, жыву ў Слуцку.

**Аб. 773.** Пазнаёмлюся з жанчынай для стварэння сям'і, згоднай на пераезд (дзіця не перашкода). Аб сабе: 42 гады, рост 168. Жыву ў сельскай мясцовасці, для жыцця ўсё маецца, жанаты не быў. Астатняе пры бліжэйшым знаёмстве. Чакаю лістоў.

**Аб. 774.** Пазнаёмлюся з хлопцам да 23 гадоў. Аб сабе: 18/169/59, жыву ў Ляхавіцкім раёне. Пішыце, абавязкова фота, адкажу ўсім.

**Аб. 775.** Сімпатычная дзяўчына пазнаёміцца з хлопцам ва ўзросце 18–25 гадоў, без шкодных звычак. Мне 18 гадоў, жыву ў Гродзенскай вобласці.

**Аб. 776.** Маладая жанчына пазнаёміцца з сумленным мужчынам для стварэння сям'і. Аб сабе: 25/165/70, вышэйшая адукацыя, згодная на пераезд (Віцебская вобл.).

**Аб. 777.** Пазнаёмлюся з сімпатычнай дзяўчынай да 18 гадоў для сяброўскіх адносінаў. Мне 18 гадоў, жыву ў Гомелі.

**Аб. 778.** Пазнаёмлюся з сімпатычнай дзяўчынай ва ўзросце 23–27 гадоў, без шкодных звычак, матэрыяльна незалежнай, для стварэння сям'і. Аб сабе: Віктар, 27/170/80, без шкодных звычак. Для знаёмства абавязкова фота (Гродзенская вобл.).

## У беларускіх вытворцаў ёсць магчымасць прадставіць сваю прадукцыю на лацінаамерыканскім рынку

Вядома, цяжка прабівацца беларускім таваравытворцам на заходні рынак. Ды і, мабыць, няма такой патрэбы, таму што ў свеце ёсць іншыя вялікія рэгіёны, дзе прадукцыя нашых заводаў і фабрык карысталася б попытам. Напрыклад, Азія, Блізкі Усход, Лацінская Амерыка... Іншая справа, што там яе зусім не ведаюць. Кампенсаваць гэты «недахоп» бяруцца прадстаўнікі Міжнароднага фонду «Новы свет-500», які ў бліжэйшы год адкрывае ў сталіцы Эквадора горадзе Кіта пастаянны гандлёва-выставачны цэнтр прамысловай прадукцыі краін СНД. Тут будзе створаны маркетынгавы аддзел, які будзе вызначаць кан'юнктуру рынку Эквадора і іншых краін Лацінскай Амерыкі, шукаць партнёраў і пакупнікоў, садзейнічаць у заключэнні камерцыйных кантрактаў, іх юрыдычным суправаджэнні, ажыццяўляць кантроль за іх выкананнем замежным бокам.

Кошт і якасць — вось галоўныя крытэрыі, па якіх ацэньваецца тавар лацінаамерыканскімі спажыўцамі. Зыходзячы з гэтага, шматлікая прадукцыя беларускіх прадпрыемстваў знойдзе сваіх пакупнікоў. Тым больш што сёння, мяркуючы па першых даследаваннях гэтага рынку, у Лацінскай Амерыцы карыстаюцца попытам дарожна-будаўнічая тэхніка, аўтамабільны транспарт, трэйлеры, велікагрузныя аўтамабілі для кар'ерных горных выпрацовак, гідра- і дызельныя электрастанцыі, горна-руднае абсталяванне, пагрузачна-разгрузачныя механізмы, абсталяванне па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі, міні-сельгастэхніка (міні-трактары, культыватары і да т. п.), аптычныя прыборы, будматэрыялы (цэмент, металаканструкцыі), электраабсталяванне, метала- і дрэваапрацоўчыя станкі, хрустальны і металічны эмаліраваны посуд, інструменты, малая тэхніка. Асаблівым попытам карыстаюцца новыя тэхналогіі па аздараўленню экалагічнай абстаноўкі, перапрацоўцы смецця і іншых адходаў, змяншэнню загазаванасці гарадоў, ачысткі вады, праекты забеспячэння бяспекі населеных пунктаў у перыяд лівеняў і паводак і інш.

Стварэнне пастаяннай выстаўкі вышэйпералічанай тэхнікі і абсталявання, стэндаў з рэкламнымі матэрыяламі, дэманстрацыя работы самой тэхнікі і паказ відэафільмаў будуць садзейнічаць руху прадукцыі на лацінаамерыканскі рынак, таму што да гэтага часу ў гэтым рэгіёне не было арганізавана сур'ёзнага паказу экспартных магчымасцяў краін СНД, продаж невялікіх партый прамысловай прадукцыі быў хутчэй вынікам асабістых сувязяў і кантактаў, а не вынікам маркетынгу і папулярызацыі яе на пастаяннай аснове. Адкрыццё пастаяннага гандлёва-выставачнага цэнтра дасць магчымасць арганізаваць выхад прадпрыемстваў на рынак гэтага рэгіёна, а таксама своечасова рэагаваць на яго кан'юнктуру.

Кіраўніцтва гандлёва-выставачнага цэнтра будзе перыядычна рэкламаваць свае экспанаты ў эквадорскіх і лацінаамерыканскіх сродках масавай інфармацыі, арганізоўваць часовыя выстаўкі ў суседніх краінах.

Беларускія вытворцы могуць выкарыстаць магчымасць гандлёва-выставачнага цэнтра для прасоўвання прадукцыі, тэхналогій на лацінаамерыканскі рынак.

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ.**

## ПРАДАЕЦЦА

■ «ВАЗ-2106» 1978 г. в. у добрым стане, цана па дамоўленасці.
*Тэл. у Верхнядзвінскім раёне 2-76-73.*

■ Недабудаваная дача на беразе Вілейскага вадасховішча.
*Тэл. (8-271) 5-57-86.*

■ Л/а «Ніва» 1987 г. в. у добрым стане.
*Тэл. у Свіслачы Гродзенскай вобласці (8-01513) 2-35-98.*

■ Кватэра 2-пакаёвая ў г. Дзятлава Гродзенскай вобласці.
*Тэл. (8-01563) 25-0-04.*

■ Недабудаваная дача на беразе Вілейскага вадасховішча (8х8м) з будматэрыяламі — 2000 у.а.
*Тэл. (8-271) 5-81-21.*

■ Зруб 2-павярховы 8х10 м арыгінальнай канструкцыі, са сталяркай, танна.
*Тэл. у Стоўбцах 47-4-92.*

■ Радыёла «Рыгонда 102», цана дагаворная; чорна-белы TV «Электрон-2» (59 см) у добрым стане; коўдра дзіцячая новая 150х150.
*Тэл. 243-21-33.*

■ Л/а «Опель-Аскона» 1985 г. в., 1600 куб. см, бензін, люк, цэнтр. замок, вішнёвы, растаможаны, у выдатным стане.
*Тэл. (8-01592) 3-16-28.*

■ Дом з г/пабудовамі ў в. Купіск Навагрудскага раёна.
*Тэл. у Лідзе (8-261) 3-33-25, пасля 15.00.*

■ Матацыкл «ЧЗТ-350/634» у выдатным стане, 300 у.а., тэрмінова.
*Тэл. у Смаргоні 9-31-23, пасля 19.*

■ Матацыкл мінскі 1993 г. в., 200 у.а.; «ІЖ-Юпітэр 5» 1986 г. в. — 250 у.а.
*Тэл. (8-217) 4-85-23.*

■ «ВАЗ-2101» 1979 г. в., танна.
*Тэл. (8-217) 4-84-85, пасля 21.00.*

■ Восенню оптам і нядорага — корань жэньшэню. Разгледжу любыя варыянты (Слонімскі раён).
*Тэл. (8-262) 7-32-06.*

■ Камплект шасцерань КПП Т-40; помпа НШ-10; помпа паліўная Т-25,16 — г. Верхнядзвінск.
*Тэл. (8-251) 2-12-15.*

■ Л/а «Форд-Таунус» 1979 г. в. — 1300 у.а.
*Тэл. у Чашніках 2-26-84.*

■ Драўляны дом з г/пабудовамі, участак 10 сотак — у Лагойску.
*Тэл. (8-274) 5-53-79.*

■ Дом з усімі выгодамі ў Карэліцкім раёне, тэлефон, гараж, 30 сотак.
*Тэл. 94-82-37 у Мінскім раёне.*

■ Задняя панель да л/а «ВАЗ-2101».
*Тэл. у Карэлічах 2-29-04.*

■ Шчаняты французскага бульдога, дастаўка, крэдыт.
*Тэл. у Магілёве 32-15-35, (8-02243) 2-24-78.*

■ «ВАЗ-2101» гаражнае захоўванне, адзін гаспадар.
*Тэл. у Мінску 243-98-03.*

■ Тэрмінова «ВАЗ-2103» 1976 г. в. — 1100 у.а.
*Тэл. у Пастаўскім раёне 3-63-35.*

■ Дом у в. Крамянец Лагойскага раёна.
*Тэл. 5-83-59.*

■ «ВАЗ-21063» 1989 г.в. у добрым стане.
*Тэл. у Салігорскім раёне (8-01710) 7-42-32, 7-48-93.*

■ Карова, праверaная на лейкоз, жарабя. Цана па дамоўленасці.
*Тэл. у Астравецкім раёне 2-42-16 (рабочы).*

■ Л/а «ІЖ-Комбі» 1987 г. в., капрамонт у 1997 г.
*Тэл. (8-01713) 7-61-29.*

■ Конь, узрост 4 гады; кузаў «ІЖ-Комбі» і інш. з/ч да «М- 2140», танна.
*Тэл. у Воранаве 9-37-35, пасля 22.00*

■ Лес апілаваны на 14 см, на зруб 8х9; дошкі 25 мм, кроквы (у Клецкім раёне).
*Тэл. (8-293) 4-37-08.*

■ Кватэра 3-пакаёвая ў в. Ніўнае Стаўбцоўскага раёна, летняя кухня, г/пабудовы, агарод.
*Тэл. (8-217) 5-42-27.*

■ «ВАЗ-2102» 1982 г. в., белы, у добрым стане.
*Звяртацца: г. Бярозаўка Лідскага раёна, вул. Школьная, 30-14.*

■ Кватэра 3-пакаёвая ў г. п. Шуміліна Віцебскай вобласці, блочны дом, 1 паверх — 7 тыс. у.а.
*Тэл. 2-22-96.*

■ «МТЗ-80» 1989 г. в., «ВАЗ-21013» 1982 г. в., танна, электрапіла «Парма», электрамлын.
*Тэл. (8-01792) 5-57-25.*

■ чыгунaчны кантэйнер 20 тон.
*Тэл. у Мінску 271-45-28.*

■ Кватэра 3-пакаёвая з усімі выгодамі, гараж у Крупках.
*Тэл. (8-271) 5-53-29.*

*Згублены атэстат А 036519 на імя **Лебедзевай Н. Ю.** лічыць **несапраўдным.***

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з 25-годдзем сумеснага жыцця **Марыю Фёдараўну** і **Анатоля Яўгенавіча НАКАПЕЧНІКАЎ** з пас. Сасновы Бор Івацэвіцкага раёна. Здароўя вам, шчасця яшчэ на доўгія гады сумеснага жыцця.*

**Сям'я Руткоўскіх.**

*Віншуем з днём нараджэння дарагую матулю і сваццю **Галіну Іванаўну САДОЎСКУЮ** з г. Мінска. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, шчасця ў жыцці.*

**Дачка, зяць, сваты з г. Валожына.**

*Пажаданні моцнага здароўя, поспехаў у справах, радасці і шчасця **Сяргею Пятровічу ЮНДЗІЛУ** з г. Слоніма з нагоды дня нараджэння.*

**Сябры.**

*Віншуем любую ўнучку **Вікторыю Мікалаеўну ГОЛІК** з в. Дварэц Рагачоўскага раёна з 18-годдзем. Дай жа табе Бог здароўя, радасці і шчасця.*

***Любячыя цябе баба Ніна, прабабка Жэня і дзядуля Косця.***

*Дарагі і любы **Валерый Стафанавіч ДРОНАЎ** з г. Ліда.*

Ад шчырага сэрца ў дзень юбілею
Жадаем радасці, светлай надзеі.
Хай будзе заўсёды здароўе і сіла,
Жыццё няхай будзе доўгім, шчаслівым.

***Жонка, сыны.***

*Віншуем з днём нараджэння **Івана Мікалаевіча ПАДУТА** з г. Пінска. Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця.*

**Родзічы,** *г. Гродна.*

*Віншуем **Мікалая ПЛЕШАВЕНЮ** і **Вольгу МІНАВУ** з вяселлем. Жадаем кахання і згоды на доўгія гады.*

**Сябры,** *г. Любань.*

*Віншуем дарагую матулю і бабулю **Тамару Сямёнаўну КАЧУРА** з днём нараджэння. Жадаем здароўя, бадзёрасці, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Дзеці, унукі,** *в. Еськавічы.*

*Віншуем з днём нараджэння **Алену Уладзіміраўну РАДЗЬКО** з в. Асанава. Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту.*

**Нявестка, сын, унук.**

*Віншуем з днём нараджэння мужа, бацьку, зяця **Юрыя Міхайлавіча ПАЛАНЕЙЧЫКА** з Магілёва. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы.*

**Жонка, сын, бацькі.**

## ЗВЯЗДА

### Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

НА СВАЕ ВОЧЫ

# КНЯСТВА ў сэрцы Пірынеяў

**Знакаміты французскі пісьменнік А. Дадэ у гэтай «карлікавай», такой таямнічай і загадкавай краіне быў, несумненна, не адзін раз. Быў, знаёміўся з тамтэйшымі мясцінамі і жыхарамі, іхнімі звычаямі і ўмовамі жыцця і, як і кожны таленавіты творца, прыкмячаў штрыхі да партрэтаў сваіх будучых герояў. Думаю, што і рысы характару сусветна вядомага Тартарэна — гумарыстычнага тыпа дробнага буржуя-хвалько з трылогіі «Незвычайныя прыгоды Тартарэна з Тараскона» — Альфонс Дадэ пачэрпнуў і ў Андоры.**

*Як? Вы не былі ў Андоры?*
*Які ж вы тады падарожнік?!*
***Альфонс Дадэ.***

ДАРОГА ішла «вінтом». Справа адкрываліся глыбокія цясніны, абрывы, ад аднаго позірку на якія сціскалася сэрца, сярэдніх памераў і дробныя азёры... А злева... Злева было відовішча, нікольkі не горшае за Альпы: высокія скалы і горы, упрыгожаныя самым багатым серпанцінам.

Мануэль Сальгада Рамірас заўважыў маё захапленне наваколлем. З усмешкай сказаў:

— Прыгожа, ці не праўда?

Я ў знак згоды кіўнуў галавой.

— Я таксама кожны раз любуюся гэтым краем, — працягваў мой спадарожнік. — У чэрвені—жніўні тут і сапраўды самае прыгожае месца на зямлі. Дарэчы, гэты ўчастак аўтастрады — самая сярэдзіна Пірынейскіх гор. Яшчэ хвілін пятнаццаць—дваццаць, і мы з табой будзем у Андоры...

Ён казаў нешта яшчэ, нібы разважаючы сам з сабою. Але я яго не чуў: краявіды Пірынеяў захапілі і паглынулі мяне поўнасцю.

На самых вяршынях-макушках гор — зіхаціць-бялее... снег. Крышачку ніжэй — горныя схілы, цудоўныя альпійскія лугі. Іх зеляніна, расфарбаваная яркімі кветкамі, зноў і зноў вымушае ўздыхнуць, пазайздросціць. Яшчэ ніжэй — ялова-піхтавы і сасновы лес, потым — дубравы і нізкарослы бук. Не-не ды і прабяжыць поруч з дарогай бурлівая горная рачулка, месцамі ўтвараючы сапраўдны вадапад.

Першае ўражанне такое, што гэты куточак Зямлі аддзелены ад усяго свету высокімі хрыбтамі і велічнымі дзікімі вяршынямі. Але так толькі здаецца. На справе ж Андору ведае і цэніць увесь цывілізаваны свет.

Хаця, здавалася б: колькі той краіны! З поўначы на поўдзень — 48 кіламетраў; з захаду на ўсход — яшчэ менш — 32. Ды і жыхарства Андоры — каля 65 тысяч чалавек — наўрад ці адыгрывае якую-небудзь важную ролю ў існаванні, скажам, нашага еўрапейскага кантынента. І, тым не менш, пабываць тут, пабачыць усё на свае вочы, пачуць уласнымі вушамі — не сумняваюся, мара калі не кожнага, дык большасці з нас...

Мы ехалі адзінай шашэйнай дарогай, што вядзе ў краіну з Іспаніі і далей ідзе на Францыю. Трапілі, такім чынам, у Андору з поўдня. Гаваркі, таварыскі і вельмі дасведчаны Мануэль усё расказваў і расказваў...

— Горныя масівы Андоры сфарміраваліся ў асноўным у палеазойскі перыяд. Таму і маюць яны такія рэзкія контуры-абрысы, крутыя схілы, скалістыя выступы і абрывы. Вунь той пік — Эстанья — вышынёй 2912 метраў над узроўнем мора, а непадалёку ад яго — Кома Педроза — яшчэ вышэйшы — 2946 метраў...

Гордасць і адна з найвялікшых каштоўнасцяў для андорцаў — рака Валіра, што цягнецца па сутнасці ўздоўж той жа шашы. Яе даўжыня 63 кіламетры, а бярэ Валіра свой пачатак у азёрным раёне Песон. Імчыць рака з вышыні 1800 метраў, вельмі часта пераходзіць у сапраўдныя вадапады і бурлівыя патокі. Акрамя яе і яшчэ адной важнай воднай артэрыі краіны — ракі Ардзіны (даўжыня яе 27 кіламетраў), у Андоры ёсць звыш ста дробных рачулак. А яшчэ тут — дзесяткі азёраў, багатых, як і рэкі, самымі рознымі відамі рыб, і найперш такой каштоўнай, як фарэль.

Горныя лясы краіны займаюць трэцюю частку яе тэрыторыі. У іх таксама шмат жыўнасці, прычым — такой жа рэдкай і каштоўнай. Гэта пірынейскія серна і хахуля, мядзведзі і дзікі, глушцы, лісы і каталонскія зайцы...

Яшчэ сорак гадоў назад тут пражывалі, паводле перапісу, 5660 насельнікаў. Сёння іх, як ужо адзначалася, каля 65 тысяч. Толькі кожны чацвёрты з жыхароў — андорац, астатнія — выхадцы з Францыі і Іспаніі, Партугаліі і Вялікабрытаніі. Калі раней у Андоры назіраўся працэс міграцыі насельніцтва, дык зараз ён усё больш і больш змяншаецца. Дарэчы, шмат андорцаў пражывае ў сталіцы Каталоніі — Барселоне: там ёсць нават андорская калонія.

Стаць андорцамі не супраць многія з жыхароў Іспаніі, Францыі, Партугаліі, — паведаміў мне ўсё той жа Мануэль Сальгада Рамірас. Аднак зрабіць гэта няпроста. У адпаведнасці з мясцовымі законамі для поўнай натуралізацыі патрабуецца пражыванне ў гэтай краіне не менш трох пакаленняў той ці іншай сям'і. Дарэчы, краіны-суседзі не адзін раз спрабавалі паўплываць на ўлады з мэтай змянення гэтай умовы, аднак свабодалюбівыя і гордыя за свой край андорцы не дазволілі зрабіць гэта.

І гэта, між іншым, пры тым, што па свайму паходжанню андорцы — каталонскія сяляне і пастухі. У далёкай старажытнасці яны асвоілі даліны Валіры, Ардзіны і іншых рэк, пабудавалі тут сабе жыллё і засталіся жыць. І па вераспавяданню яны тыя ж, што і іспанцы, каталікі. Краіна падзелена на шэсць царкоўных прыходаў і да сённяшняга дня падпарадкоўваецца іспанскаму епіскапу.

Аднак хопіць лірыкі і эмоцый: паездка ў Андору была ўсё ж такі больш дзелавой...

Сёння ў краіне па-ранейшаму больш адчуваецца ўплыў Францыі, чым Іспаніі, хаця, здавалася б, павінна быць наадварот: доступ у Андору з французскага боку больш цяжкі і складаны, чым з іспанскага. Склалася ж так ужо традыцыйна, з даўніх часоў. Таму і мову тут часцей ужываюць французскую, чым іспанскую ці каталонскую (а ўсе яны, паводле канстытуцыі, маюць роўныя правы для карыстання), і школ французскіх амаль у паўтара раза больш, чым іспанскіх... Праўда, андорцы над гэтым і не задумваюцца, тым больш, што вучэльні на французскай мове ўтрымліваюцца за кошт самой Францыі. Абавязковай з'яўляецца сямігадовая адукацыя, а потым ужо кожны вырашае свой лёс па-свойму. Між іншым, далей вучыцца можна толькі ў тых жа суседніх дзяржавах: сваіх сярэдніх спецыяльных ці вышэйшых навучальных устаноў у Андоры проста няма.




Мануэль пазнаёміў мяне з некалькімі сваімі сябрамі з Андоры. І неяк адразу, што называецца, з першага поціску рук, спадабаліся мы адзін аднаму з Фернандам Марцінасам Муньасам — дробным тамтэйшым гандляром. Фернанда аказаўся добразычлівым, гасцінным і цікаўным маладым чалавекам. Пазней, пры развітанні і абмене сувенірамі-падарункамі, на маю заўвагу адносна ягонай дабрыні і спагады, ён зрэагаваў вось як: «А мы, андорцы, усе такія!». Гэта значыць, што гатовы падзяліцца з табой усім, нават апошнім, у цяжкую хвіліну прыйсці на дапамогу...

І, вядома ж, пачаставаў Муньас віном — нацыянальнай гордасцю свайго краю. Зазначу: тамтэйшы «Мускатэль» — сапраўды лепшы з напояў у свеце. П'юць яго андорцы шмат, але, як правіла, па святах і з добрымі людзьмі — гасцямі. А так, зазвычай, спажываюць у вялікіх аб'ёмах звычайнае вінаграднае віно — нямоцнае, натуральнае, карыснае для здароўя (калі, вядома ж, у разумных дозах!). Прычым, п'юць яго з арыгінальнай пасудзіны, якая называецца «порра»: бутля з доўгім і вузкім рыльцам, нахіляючы якую спажывец накіроўвае струмень віна прама ў рот. Скажу вам шчыра: смаката!

Як няма практычна і ўласных газет і часопісаў: яны па-ранейшаму ўвозяцца з Францыі і Іспаніі. І ў той жа час краіна мае дзве надзвычай магутныя радыёстанцыі «Радыё Андоры» і «Сюд-Радыё», што таксама належаць больш магутным суседзям з поўдня і поўначы. Багатыя на літаратуру і рэдкія экспанаты дзяржаўныя бібліятэка і музей, у якіх давялося пазнаёміцца з цікавымі і карыснымі рэліквіямі.

**(Заканчэнне будзе)**

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**Фота аўтара.**

*Мінск—Барселона—Андора-ла-В'еха.*

## БАГАЦЕЙШЫЯ З БАГАТЫХ

**«Верагодна, гэта клішэ, але гэта праўда: багатыя становяцца яшчэ багацейшымі. І іх становіцца ўсё больш. Вось чаму мы вырашылі зноў абмежаваць наш спіс мільярдэраў двумастамі самымі багатымі з іх, якія ўсё яшчэ зарабляюць або працуюць з тымі грашыма, якія атрымалі ў спадчыну. Бяднейшы з іх ацэньваецца ў 1,5 млрд. долараў. Мы ўзялі 10 з 200, якія не абавязкова самыя багатыя, але тыя, хто, як мы мяркуем, з'яўляюцца самымі моцнымі прадпрымальнікамі гэтай групы».**

Спіс часопіса «Форбс» адкрывае Уільям (Біл) Генры Гейтс III, 42 гады, чыстая маёмасць — 51 млрд. дол. Самы багаты ў свеце.

Далей ідуць: 41-гадовы прынц Альвалід Бін Талал Бін Абдулазіз Альсауд (Саудаўская Аравія) — 13,3 млрд. дол.; 58-гадовы Філіп Ф. Аншутц (ЗША) — 8,8 млрд.; 54-гадовы Хасо Платнер (ФРГ) — 6,9 млрд.; 61-гадовы Франсуа Піно (Францыя) — 6,6 млрд.; 67-гадовы Руперт Мэрдак (ЗША) — 5,3 млрд.; 75-гадовы Роберт Куок (Малайзія) — 4,7 млрд.; 24-гадовы Ларэнса Самбрана (Мексіка) — 2,9 млрд.; 40-гадовы Масаёчы Сон (Японія) — 2,2 млрд.; 37-гадовы Уладзімір Патанін (Расія) — 1,6 млрд. долараў.

**«Форбс» (ЗША).**

## У ЕРЭВАНЕ ПРАЦЯГВАЮЦЬ АБМЯРКОЎВАЦЬ ФОРМУ ДЗЯРЖКІРАВАННЯ

**Камісія па канстытуцыйных змяненнях пры прэзідэнце Арменіі працягвае разглядаць магчымыя варыянты формы дзяржаўнага кіравання ў рэспубліцы.**

Як паведаміў журналістам старшыня камісіі Паруйр Айрыкян, на абмеркаванне прадстаўлены тры варыянты дзяржаўнага кіравання: прэзідэнцкі, паўпрэзідэнцкі і парламенцкі.

Паводле слоў Айрыкяна, у ходзе папярэдняга рэйтынгавага галасавання 15 членаў камісіі выказаліся на карысць паўпрэзідэнцкай сістэмы кіравання, за іншыя варыянты прагаласавалі па тры чалавекі. Канчатковае абмеркаванне пытання аб форме дзяржкіравання адбудзецца на наступным пасяджэнні камісіі, дата правядзення якога пакуль не вызначана.

**«АиФ—Новости».**

## ДЭТАЛІ СЛЕДСТВА ПА СПРАВЕ РОХЛІНА ПАЦВЯРДЖАЮЦЬ ВЕРСІЮ НАКОНТ БЫТАВОГА ЗАБОЙСТВА

Дэталі следства па справе дэпутата Дзярждумы РФ Льва Рохліна «пацвярджаюць усё больш і больш версію наконт бытавога забойства», заявіў у чацвер у інтэрв'ю «Інтэрфаксу» генеральны пракурор Юрый Скуратаў.

«Любую інфармацыю, якая ставіць пад сумненне бытавую версію, я магу, абапіраючыся на матэрыялы крымінальнай справы, абвергнуць», — сказаў ён.

Разам з тым генпракурор падкрэсліў, што гэта «не значыць, што мы выключылі іншыя версіі. Ідзе работа і па іншых напрамках».

Ю. Скуратаў адзначыў, што вакол гэтай справы плятуцца палітычныя інтрыгі. «Мы накіруем гэтую справу ў суд тады, калі наша пазіцыя... будзе даказана. Інакш што будзе з намі, калі гэтая справа ў судзе разваліцца?» — сказаў генпракурор.

«Мы не зацікаўленыя любой цаной абвінаваціць жонку генерала Тамару Рохліну (раней яна прызналася следчым, што застрэліла мужа — «ІФ»), — падкрэсліў Ю. Скуратаў. Па яго словах, у следства быў цяжкі момант, звязаны з выяўленнем непадалёк ад дачы Л. Рохліна 3 трупаў.

Ю. Скуратаў сказаў, што іх асобы ўстаноўлены. Устаноўлены і асобы, якія заказалі іх забойства, і іх выканаўцы, яны затрыманы і даюць паказанні.

Гэта дзіўнае забойства, і да гібелі Рохліна яно не мае дачынення, адзначыў генпракурор.

**Інтэрфакс.**

## КАФЕІН РОБІЦЬ БОЛЬШ ВЫНОСЛІВЫМ І... АГРЭСІЎНЫМ

Бельгійская газета «Nouvelle Gazett» расказвае пра даследаванні вучоных Універсітэта Руэна, дзякуючы якім стаў вядомы механізм уздзеяння кафеіну на клеткі арганізма.

Рэчыва, якое ўтрымліваецца ў каве, чаі і напітках тыпу «Кока-кола», змяняе рэцэптары адэназіну — клетачнага рэчыва, якое дазваляе забяспечваць сувязь паміж клеткамі рознага тыпу. Менавіта гэтае рэчыва зніжае болевыя імпульсы.

Дзякуючы геннаму ўмяшанню вучоным удалося «выключыць» у адной з лабараторных мышэй клетачны рэцэптар, пасля чаго паддоследная жывёла, не страціўшы здольнасці да размнажэння, стала неадчувальнай да болю, больш вынослівай і... агрэсіўнай.

**«АиФ-Новости».**

## Леанід Абалкін аб антыкрызіснай праграме ўрада

«Антыкрызісную праграму ўрада давядзецца пераглядаць, паколькі яе формы і метады вельмі складана прагназіраваць», — заявіў кіраўнік Інстытута эканомікі РАН Леанід Абалкін. Паводле яго слоў, дакумент напісаны тымі ж аўтарамі, якія давялі краіну да эканамічнага крызісу. «У праграме адсутнічаюць прапановы па прамысловай палітыцы, зусім няма раздзела, дзе разглядаліся б валютна-фінансавыя адносіны і грашова-крэдытная палітыка дзяржавы», — адзначыў Абалкін. Ён паведаміў, што ў адпаведнасці з праграмай з 1 жніўня будзе адключана ад энерга- і газазабеспячэння вялікая колькасць прадпрыемстваў у рэгіёнах.

**«Аиф—Новости»**

## На думку гісторыка, архіўныя дакументы сведчаць аб «злачынным праліку» Сталіна ў пачатку Айчыннай вайны

Архіўныя дакументы сведчаць аб тым, што Іосіф Сталін валодаў шырокай інфармацыяй аб рыхтуемым нападзе Германіі на СССР, тым не менш, неабходныя меры савецкім урадам не былі прыняты. Аб гэтым заявіў у Маскве на прэзентацыі двухтомніка «1941 год» з серыі «Расія, XX стагоддзе. Дакументы», які выйшаў 3-тысячным тыражом, навуковы рэдактар выдання, доктар гістарычных навук Уладзімір Навумаў.

На яго думку, такое бяздзеянне «стала заканамерным вынікам стратэгічнага праліку Сталіна, які меркаваў падоўжыць мірную перадышку да сярэдзіны 1942 года».

«У канчатковым выніку , — падкрэсліў У. Навумаў, — усё гэта вылілася ў цяжкае злачынства Сталіна перад савецкім народам», абярнулася мільёнамі ахвяр сярод савецкіх ваенных і мірнага насельніцтва ў пачатку вайны.

У. Навумаў адзначыў, што ў працэсе складання зборніка, работы па якому вяліся па распараджэнню прэзідэнта РФ Барыса Ельцына, было адабрана для публікацыі больш як 600 дакументаў, якія асвятляюць перыяд з чэрвеня 1940-га па снежань 1941 г. Пераважная частка дакументаў публікуецца ўпершыню.

Дакументы характарызуюць негатоўнасць Чырвонай Арміі да вайны, паказваюць недахопы яе баявой падрыхтоўкі, кадравую чахарду. Акрамя таго, яны поўнасцю абвяргаюць домыслы аб быццам бы прэвентыўным — для адбіцця рыхтуемай савецкай агрэсіі — нападзе фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз.

У. Навумаў перакананы, што «народ, які самаахвярнасцю і мужнасцю выратаваў краіну ад гібелі, мае права ведаць страшную праўду аб пачатку вайны».

У зборніку ўпершыню ў сусветнай практыцы расшыфраваны многія псеўданімы савецкіх разведчыкаў. Аднак па аператыўных меркаваннях або па жаданню разведчыкаў ці членаў іх сем'яў частка сапраўдных імён не названа.

Падрыхтоўцы зборніка садзейнічалі Архіў знешняй палітыкі прэзідэнта Расіі, Служба знешняй разведкі, Расійскі дзяржаўны ваенны архіў, Цэнтральны архіў Міністэрства абароны РФ і іншыя.

## РАСІЙСКІЯ ЛЕВЫЯ РАДЫКАЛЫ Ў ВЫПАДКУ ПРЫХОДУ ДА ЎЛАДЫ НЕ МАЮЦЬ НАМЕРУ НЕСЦІ АДКАЗНАСЦЬ ЗА ЗНЕШНІЯ ДАЎГІ

**Прадстаўнікі леварадыкальных апазіцыйных сіл заяўляюць, што ў выпадку прыходу да ўлады яны не маюць намеру несці адказнасць за крэдыты, атрымліваемыя за мяжой цяперашнім урадам Расіі.**

Лідэр руху «Працоўная Расія» Віктар Ампілаў заявіў у чацвер «Інтэрфаксу», што «новыя крэдыты МВФ выдзеліў для выратавання рэжыму Ельцына ад народнай лютасці». «Вытворчасць ад гэтых грошай у нас усё роўна не наладзіцца, а ў народа ад іх не дабавіцца нічога, а значыцца, плаціць па гэтых даўгах народ не павінен», — лічыць В. Ампілаў.

Са свайго боку лідэр Расійскай камуністычнай рабочай партыі Віктар Цюлькін заўважыў, што мільярды МВФ «усё роўна асядуць у кішэнях тых, хто прывык цягаць у авосьцы па 500 тысяч долараў».

Лідэр Саюза кампартый (СКП—КПСС) Алег Шэнін заявіў «ІФ», што, вырашаючы, ці вяртаць знешнія даўгі, «перш за ўсё трэба будзе ўважліва паглядзець, што гэта за даўгі, хто іх узяў і на што патраціў».

Як заявіў гэтымі днямі лідэр Руху ў падтрымку арміі, старшыня думскага камітэта па бяспецы Віктар Ілюхін, шматмільярдная пазыка МВФ «выходзіць далёка за рамкі зацверджанай Дзярждумай праграмы дзяржаўных знешніх пазык».

В. Ілюхін падкрэсліў, што крэдыт «будзе разглядацца не ў якасці дзяржаўнага доўгу, а як асабістая пазыка прыватнай асобе па прозвішчу Чубайс».

**Інтэрфакс.**

*36,6°*

### ПРАВІЛЫ, ЯКІЯ МОЖНА ПАРУШАЦЬ

Мы ўсе патроху разбіраемся ў тым, што значыць правільна харчавацца — так, каб гэта было і карысна, і дыетычна. Аднак некаторыя догмы ў харчаванні, якія раней здаваліся непарушнымі, на самай справе аказаліся памылковымі.

**УЖЫВАЙЦЕ ЕЖУ ТРЫ РАЗЫ НА ДЗЕНЬ І НЕ ЖУЙЦЕ Ў ЧАС ХАДЗЬБЫ**

Канадскія вучоныя даследавалі дзве групы: адну кармілі класічна — тры разы на дзень, другой колькасць калорый размяркоўвалі на 17 прыёмаў у дзень. У выніку ў «закусачнікаў» аказаўся больш нізкі ўзровень інсуліну, а высокі ўзровень інсуліну выклікае пачуццё голаду і прымушае цела рабіць запасы тлушчу. Так што ўжывайце ежу столькі разоў, колькі жадаеце, галоўнае — не перабраць меру з колькасцю ежы і яе каларыйнасцю.

**АДДАВАЙЦЕ ПЕРАВАГУ ЕЖЫ ПАНІЖАНАЙ ТЛУСТАСЦІ**

Калі вы не абжора, такое самаабмежаванне нічога не дае. Ежа павінна прыносіць задавальненне — і гэта галоўнае. Таму не трэба піць толькі абястлушчанае малако і есці толькі абястлушчаны тварог.

**СЯДАЙ ЗА СТОЛ ТОЛЬКІ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК АДЧУЕШ САПРАЎДНЫ ГОЛАД**

Усё якраз наадварот — не будзьце галоднымі. Як паказваюць даследаванні, паміж прыёмамі ежы павінна прайсці не больш як 5 гадзін. Больш доўгія паўзы, як правіла, вядуць да пераядання.

**Па матэрыялах друку.**

**Лясная сцяжынка, навокал стройныя сосны — эфект абсалютнай адзіноты. І нечакана як на далоні — лясная вёсачка з пяшчотнай назвай «Гутка». Пасля гарадской мітусні ажно вушы закладвае ад цішыні. Дзве хаты, вялізны вяз, маляўнічая сажалка, птушкі шчабечуць. Міраж ды і толькі. Старэйшаму жыхару Гуткі, бабулі Марысі, 94 гады. Яна жыве ў вялікім доме, у якім змясціліся тры сям'і.**



КРОПКА НА КАРЦЕ

# ГУТКА



НАС СУСТРЭЛА жанчына сярэдніх гадоў. Знаёмімся. Пляменніца з Польшчы прыехала адведаць бабулю, схадзіць на магілкі да маці. А вось і бабка Марыся. Хуценька завязвае на галаву новую хустку — чорную з чырвонымі ружамі. Запрашае прысесці ля стала і пачынае гаворку.

Марыя Мікалаеўна Бурбянчук нарадзілася ў 1904 годзе ў пасёлку Курчынская Гута, што пад Навагард-Валынскім Жытомірскай вобласці. Калі ёй было дванаццаць гадоў, ад тыфу памерла маці. Дзяўчынка засталася адна з трыма сястрычкамі на руках. Самай малодшай было шэсць тыдняў! Марыя Мікалаеўна ўспамінае, што купляла ў мясцовых яўрэяў малако, капала яго сабе на губу і давала смактаць малой. Так і выкарміла. Праўда, у тры гады памерла яе сястрычка — пачарнела і павалілася на падлогу. Прычыну не ўстанавілі — дзе ж тут урача знойдзеш. Ішоў 1919 год.

Да вайны Марыя Мікалаеўна працавала на мясцовым шклозаводзе. Сваёй сям'ёй не абзавялася — куды там, калі побач дзве сястрычкі, якіх трэба на ногі паставіць. Сапраўдная маці, рана пасталелая маленькая жанчына.

Пасля вайны, у 1952 годзе, прыехала Марыя Мікалаеўна да сястры Ганны ў Гутку. У 30-х гадах тая выйшла замуж за ваеннага (сястра Марыя так і сказала: «Трэба табе ўласную сям'ю мець, няма чаго ў дзеўках сядзець»). Але шчасце было нядоўгім — у 1937 годзе мужа арыштавалі. Звестак аб ім да гэтага часу няма. Вярнулася Ганна на Украіну, да сястры. Тут другі раз выйшла замуж — зноў за ваеннага. Таго накіравалі служыць у Гутку. Так тут з'явілася Ганна, потым прыехала Марыя, і сталі жыць дзве сястры разам.

Пяць гадоў таму Ганны не стала — трапіла пад цягнік. Бабка Марыся засталася жыць адна. Добра, што суседзі дапамагаюць — і хлеба прывязуць, і абедам накормяць. Без іх нават не ведала б, як і жыць.



Зрэдку пляменніца з Польшчы прыязджае. Вось ужо больш за паўстагоддзя жыве Надзея Станіславаўна Сушко за мяжой. У вайну пазнаёмілася з хлопцам і паехала разам з ім. «Аднак, як ваўка цягне ў лес, так мяне цягне ў родныя мясціны», — смяецца Надзея Станіславаўна.

Марыя Мікалаеўна шчыра ўсміхаецца — так радасна ёй ад таго, што людзі не забываюць, прыходзяць, цікавяцца. Ды і пляменніца, даведаўшыся пра назву газеты, гаворыць з польскім акцэнтам: «Звязда» (націск на я), а, то гэта добжэ».

Пенсія ў старой невялікая — мільён. «Пятнаццаць долараў», — перакладаю Надзеі Станіслаўне. Тая здзіўлена ўздымае брыво. У Польшчы ўсё інакш — яна атрымлівае дзвесце, а муж чатырыста долараў пенсіі. Гэтага дастаткова, каб прыстойна жыць. Аднак старыя палякі незадаволены сітуацыяй у сваёй краіне. «Занадта шмат свабоды», — гаворыць Надзея Мікалаеўна. А ў Беларусі больш спакойна, таму і едзе сюды немаладая ўжо жанчына.

Калі развіталіся, пытаюся ў Марыі Мікалаеўны пра здароўе. «Дажываем, сынок», — кажа тая. Хоць і без акуляраў нітку ў іголку можа ўцягнуць, чытае добра, нават свінчо яшчэ ў мінулым годзе трымала, але, па яе словах, стамілася жыць. У адзіноце. «Да Бога няма пошты, а так бы напісала, — гаворыць старая. — А ў мяне на душы так цяжка, быццам каменне туды навалілі».

За сцяной у бабулі Марысі жыве сям'я Адаськаў — Георгій Антонавіч і яго жонка Надзея Васільеўна. Ён працуе ў Альберцінскім лясніцтве, яна — вартаўніком у піянерскім лагеры. Бацькі і дзед у Георгія Антонавіча таксама былі леснікамі. Яшчэ пры панах працавалі, ва ўладаннях пана Пуслоўскага. Вёска раней называлася Гутка Пуслоўскага. «Тут быў кардон, своеасаблівае паселішча для леснікоў», — тлумачыць Георгій Антонавіч. Тыповы жыхар лесу, для яго горад — незразумелая з'ява. «Паехаў да сына ў Слонім, пасядзеў у кватэры, ды нешта млосна стала, не вытрымаў і паехаў у Гутку», — расказвае Адаська.

Уласная гаспадарка ў лесніка вялікая — конь, карова, свінні, куры. Усё як мае быць. Заробкі невялікія — у Георгія Антонавіча аклад 900 тысяч, у жонкі — крыху больш. На хлеб хапае. «Трэба працаваць, — лічыць ляснік, — будзеш працаваць — будзеш жыць».

Вясковы статак складаецца з чатырох кароў. Конь для гутчан — першая справа. Без яго як без рук. За хлебам прыходзіцца ездзіць за пяць кіламетраў, у Новую Варту.

За працай, па словах жыхароў Гуткі, і не так сумна. Адна праблема: у лесе бульбу не пасадзіш — дзікі з'ядуць. Затое травы шмат — была б сіла нарыхтаваць сена. Тут і рыбалка, і паляванне. Толькі людзей застаецца ўсё менш і менш. Памірае чарговая вёсачка, знікае.

«Дажываем, сынок...»

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**
**Фота Мікалая СУПРУНА.**

# КРАЛІ, КРАДУЦЬ... І БУДУЦЬ КРАСЦІ?..

**У электрычках і на аўтобусных прыпынках, на вяселлі і памінках усё яшчэ актуальнай тэмай для размовы з'яўляюцца катэджы і начальства, якое накрала грошай, каб тыя катэджы пабудаваць. Людзі абураюцца і выглядаюць ужо праведнікамі, якія да чужога і пальцам не дакрануцца. Яны ўпэўненыя, што калі зладзеяў расстрэльваць ці адсякаць ім рукі, то парадак навесці можна.**

Вось ужо каторы год паўтараецца адна і тая ж гісторыя — пачынаецца лета, а разам з ім і набегі на дачныя ўчасткі. Крадуць цыбулю, капаюць маладую бульбу, збіраюць ягады... цягнуць па магчымасці ўсё, што можна з'есці ці прадаць. Вядома ж, рабуюць дачы не начальнікі, а звычайныя, простыя людзі. Але і дачнікі не святыя.

Калі дачны пасёлак будуецца каля лесу, то на кроквы сякуць дрэвы, хаця наўскрайку прыбіта шыльда, на якой напісана, што секчы лес забаронена. Ідзе высечка і лесапалос каля чыгункі.

Уваход у парк быў абліцаваны мармуровымі плітамі, дык усе пліты, якія можна было адарваць, укралі. Аказалася, што яны вельмі падыходзяць для надмагільных помнікаў.

Красці дзяржаўнае і калгаснае — гэта ў нашага чалавека ў крыві, але апошнім часам усё больш прыцягвае ўвагу зладзеяў прыватны сектар. І асабліва не выбіраюць, у каго ўкрасці.

У вёсцы Альсевічы, што пад Баранавічамі, пенсіянерка К. залезла ў хату да суседкі. Усё перавярнула, але грошай не знайшла. Тады прыхапіла некалькі бутэлек гарэлкі ды кавалак сала. Зладзейку хутка знайшлі, бо жанчына не вытрымала і добра напілася з пастухом.

А ў другой вёсцы гэтага ж раёна ў інваліда ноччу выкралі вепрука вагой пад 300 кг. І здолелі гэта зрабіць так спрытна, што вяпрук і не квікнуў. Калі свіння маўчыць, то што казаць пра авечак. У вёсцы Прылукі Кобрынскага раёна адзін гаспадар зазірнуў раніцай у хлеў, а трох авечак няма.

Вепрука і авечак міліцыя, магчыма, і знойдзе, а вось калі знікаюць куры ці гусі, то гаспадары толькі ўздыхнуць і заяўляць не спяшаюцца. У міліцыі і без курэй клопату хапае.

Жыхар Баранавіч Г. запрасіў у госці мужчыну і жанчыну, а яны выкралі з кватэры рэчаў на 19 млн. Гаспадар, калі адышоў ад алкагольнага чаду, кінуўся ў міліцыю з заявою.

Людзі, якія пападаюцца на дробным крадзяжы, асабліва нічым не вылучаюцца з масы. Працуюць ці на пенсіі, маюць сем'і і да крымінальнай адказнасці не прыцягваліся. Курыца, украдзеная ў суседа, ці кілаграм каўбасы, вынесены з мясакамбіната, на крымінал не цягнуць. І пра гэта дробныя зладзеі добра ведаюць. Пакаранне ў такіх выпадках выліваецца ў штраф. Але тут прыцягвае ўвагу маральны бок справы. Ход разважанняў чалавека, яго логіка.

У чаканні электрычкі стаіць група мужчын. Сярод іх мой знаёмы Л. Адзін гаворыць, што трэба сад пасадзіць, а другі скардзіцца, што яблыкаў ды слівы дарагія. «А навошта іх купляць, калі ў дачнікаў можна накапаць...», — сур'ёзна гаворыць знаёмы, а ён жа лічыцца на вёсцы прыстойным чалавекам.

Пабудаваны за дзяржаўны кошт асабняк і ўкрадзены кілаграм той жа каўбасы, хаця, на першы погляд, рэчы непараўнальныя, а ў прынцыпе мала чым і адрозніваюцца. Калі ў дробнага злодзея замест каўбасы з'явілася б магчымасць украсці на катэдж, то ён бы гэта зрабіў. Хаця, безумоўна, многае залежыць і ад характару чалавека. У другога смеласці можа і не хапіць больш чым на курыцу ды каўбасу.

Крадуць не толькі ў нас. У Японіі выкрываюць прэм'ер-міністраў у прысваенні дзяржаўных грошай, а затым яны каюцца і плачуць перад тэлегледачамі, але калі налётчык выхапіў у інкасатара сумку з грашыма і, уцякаючы, тыя грошы рассыпаў, то японцы ўсе іены сабралі і вярнулі інкасатару.

Уявіць штосьці падобнае ў нас цяжка. Пакуль у грамадстве не выспее думка, што любы крадзеж — гэта нядобра, пакуль людзі не зразумеюць, што ўкрадзеныя мільён і рубель у маральным плане адно і тое ж, цяжка штосьці змяніць да лепшага.

**Сямон СВІСТУНОВІЧ.**

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

● **У гэты дзень у 1401 годзе** была заключана Віленска-Радамская унія — дзяржаўна-палітычны саюз Вялікага княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.

● **28 ліпеня 1586 года** сэр Томас Хэрыёт прывёз у Еўропу бульбу. Распаўсюджванне гэтай культуры на нашым кантыненце адбывалася даволі няпроста.

● **28 ліпеня 1794 года** на гільяціне перад радасным натоўпам былі пакараны Максімільян Рабесп'ер, Луі дэ Сен-Жуст і яшчэ 20 іх паплечнікаў. Тэрмідарыянскі пераварот 27—28 ліпеня азначаў канец якабінскай дыктатуры, якая замест «дыктатуры дабрадзейнасці» ператварылася ў крывавы тэрор з 40 тысячамі ахвяр.

● **У гэты дзень у 1804 годзе** нарадзіўся Людвіг Феербах, вядомы нямецкі філосаф.

● **28 ліпеня 1914 года** Аўстра-Венгрыя аб'явіла вайну Сербіі. Пройдзе яшчэ некалькі дзён, і вайна перарасце ў сусветную.

● **28 ліпеня 1922 года** нарадзіўся вядомы савецкі пісьменнік Уладзімір Карпаў, Герой Савецкага Саюза, які прайшоў праз штрафны батальён.

● **У гэты дзень у 1929 годзе** нарадзілася Жаклін Кенэдзі-Анасіс, удава прэзідэнта Джона Кенэдзі, затым — жонка буйнейшага грэчаскага магната. Дзякуючы сваёй прыгажосці і абаяльнасці Джэкі істотна змяніла ролю першай лэдзі ў грамадскім жыцці краіны.

● **28 ліпеня 1942 года** Сталін падпісаў сумна вядомы загад № 227 «Ні кроку назад», які пад пагрозай расстрэлу забараняў любое адступленне, уводзіў штрафныя і загараджальныя батальёны.

● **28 ліпеня 1976 года** ў Кітаі адбыўся моцны землятрус. Загінула, па розных ацэнках, ад 655 да 750 тысяч чалавек.

● **У гэты дзень у 1986 годзе** Міхаіл Гарбачоў аб'явіў аб пачатку вываду савецкіх войскаў з Афганістана.

## І так бывае

***Адчыніўшы днямі паштовую скрынку, жыхарка Волагды Н. Шчарбакова дастала пісьмо, адпраўленае яе ўнучкай Ірынай, мяркуючы па паштоваму штэмпелю, 20 ліпеня 1985 года. Такім чынам, з Германіі ў Волагду пасланне ішло цэлых 13 гадоў! Аб гэтым выпадку расказала газета «Русский Север».***

Пісьмо з мінулага расказала аб тым, як Ірына правяла канікулы. Цэлым і добра захаваным прыбыў і зроблены ў падарунак любімай бабулі малюнак лебедзя. У Валагодскім вузле сувязі тайну такога працяглага падарожжа канверта растлумачыць не змаглі. Але Надзея Мікалаеўна не мае прэтэнзій — лепш позна, чым ніколі.

## Дзесьці на белым свеце

***Калі б грамадзянін Астап Бендэр даведаўся аб тым, як лёгка прыходзіць удача да тых, хто яе зусім не чакае, ён з'еў бы ад злосці ўласны капялюш. Бо нейкай сямейнай пары з брытанскага горада Кардзіфа, якая яшчэ гадоў 20 таму разжылася на мясцовай барахолцы старым крэслам за 25 фунтаў стэрлінгаў (42 долары), і ў страшным сне не магло прысніцца, што на самай справе яны купілі каралеўскі трон прынца Уэльскага, зроблены ў XVIII стагоддзі.***

Цэлых 20 гадоў прастаяла крэсла-трон у сталовай, і ніхто нават не спрабаваў учыніць замах на яго абіўку і не звяртаў увагі на тры страусіныя пяры, выразаныя на крэсле. Пакуль, нарэшце, не дадумаліся, што пер'е гэтае — няпростае, што яны і ёсць эмблема гэтага самага прынца з Уэльса. Калі ж усё гэта высветлілася, то і адбылося тое, да чаго так і не дажыў гаротны Астап Ібрагімавіч — на ўладальнікаў проста зваліўся скарб. Аўкцыён «Крысці», куды адразу ж зацягнулі знаходку, прыкінуў, што крэсла-трон пацягне ніяк не менш чым на суму, якая ў 3200 разоў перавышае тую, за якую яго купілі — гэта значыць 134.400 долараў.

## Цікава

***Шведскія вучоныя ўстанавілі: існуе прамая залежнасць паміж тым, як чалавек праводзіць свой вольны час, і яго здароўем.***

Аказваецца, для ўмацавання імуннай сістэмы зусім неабавязкова ўвесь час гуляць на свежым паветры ці бавіць час на трэнажорах. Больш важна і карысна глядзець захапляльныя фільмы ці «хварэць» за любімую футбольную каманду. Вучоныя высветлілі: даўжэй жывуць тыя, хто наведвае захапляльныя і ўзбуджальныя мерапрыемствы, а не тыя, хто аддае перавагу кнізе на канапе.

## Жыццё наша...

***Нагледзеўшыся па тэлевізару, як шахцёры адстойваюць свае правы, перакрываючы Транссібірскую чыгунку, жыхар Кілемарскага раёна (недалёка ад Йашкар-Алы) у знак салідарнасці з імі і выказваючы свой пратэст супраць жыццёвага бязладдзя таксама пажадаў легчы ўпоперак чаго-небудзь.***

Паколькі чыгуначных пуцей паблізу не пралягала, ён выйшаў за ваколіцу сяла і лёг упоперак дарогі. Ляжаў гадзіну, другую — ніхто не едзе. Нарэшце пачуўся шум матора — гэта ехаў аднасельчанін на трактары. Падумаўшы, што гэта сусед зваліўся ў пыл па п'янцы, трактарыст паспрабаваў яго закінуць у прычэп, каб адвезці дадому і «здаць» жонцы, аднак забастоўшчык не пажадаў пакінуць праезныя часткі гасцінца. Плюнуўшы, той аб'ехаў яго бокам. Пралежаўшы ў адзіноце да цемнаты, небарака адправіўся дамоў.

## Анекдот

*— Тата! У цябе такі вялікі жывот ад піва?*
*— Запомні, сынок, жывот — не ад піва, а для піва!*

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.755. Індэкс 63850.
Зак. № 4439.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12